


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

25 верасня 2020 года №39 (1326) 18+




# Восень – час прыбіраць зямлю ад смецця



**Гаспадар аграсядзібы на Астравеччыне Аляксандр Дарашэвіч арганізаваў прыборку смецця на Сарачанскіх азёрах. За тры гадзіны разам з жонкай Вольгай прыбралі каля 500 літраў смецця.**

старонка 2

Фота забяспечанае Аляксандрам ДАРАШЭВІЧАМ.

**Пра што вілейчукі пыталіся ў дэпутата і якія адказы атрымалі**
старонка 5

**Падрабязна пра суд па справе аб гвалце над супрацоўнікамі АМАПа ў Маладзечне**
старонкі 20-21


ISSN 1991–7155



Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by


# Восень – час прыбіраць зямлю ад смецця

АСТРАВЕЦ

**У Астравецкім раёне жыхары правялі экалагічную акцыю ў межах Сусветнага дня прыборкі. Дзякуючы ёй чысцей стала тэрыторыя вакол двух азёр Сарачанскай групы.**


Фота забяспечана Аляксандрам ДАРАШЭВІЧАМ.

Аляксандр Дарашэвіч расказвае, што большасць смецця – гэта адходы, якія пакінулі пасля сябе рыбакі і адпачывальнікі.

Аляксандр Дарашэвіч – гаспадар аграсядзібы «Камарышкі». Менавіта за прыродаахоўную дзейнасць ён перамог у намінацыі «Учынак года» ў акцыі «Рэгіянальнай газеты» «Асоба года-2017».

19 верасня Аляксандр зладзіў мерапрыемства ў межах Сусветнага дня прыборкі. Кажа, агулам гэта заняло каля трох гадзін. Прыбіраў Аляксандр разам з жонкай Вольгай. На наступны дзень прыборка працягнулася – далучыліся дзяўчаты, якія гасцілі ў аграсядзібе.

Дарашэвіч ужо некалькі год запар арганізоўвае прыборкі на тэрыторыі Сарачанскіх азёр. У гэтым годзе абышлі возера Падкасцёлак і Галубіна.

**Агулам за тры гадзіны ўдваіх сабралі каля 500 літраў смецця.**

### Смецце ад рыбакоў і адпачывальнікаў

Тэрыторыю вакол гэтых азёр прыбіралі не ўпершыню. Толькі абыходзяць кожны раз іншы маршрут. Аднойчы зрабілі і экасплаў на байдарках, калі прыбіралі смецце з вады.

– У асноўным смецце, што мы сабралі, засталося ад рыбакоў і адпачывальнікаў.

**Ёмістасць ад прыкормкі, бутэлькі, у тым ліку з-пад алкаголю. Было і такое – людзі адпачывалі, прыбралі смецце, а пакет з ім пакінулі ля дарогі.**

На Астравеччыне экалагічныя акцыі праводзіць лясгас – звычайна ў межах іх садзяць дрэвы і прыбіраюць смецце. Запрашаюць да прыборкі і прадстаўнікі Беларускага таварыства паляўнічых і рыбаловаў.

### Далучаць дзяцей – слушна

Некаторыя арганізацыі запрашаюць на акцыі па прыборцы ў горадзе, але акцыя заключаецца ў зграбанні лісця і яго вывазе. Да такіх прыборак эколагі ставяцца скептычна – лісце якраз варта пакідаць, толькі змятаць з тратуараў.

**Часта да экалагічных акцый прыцягваюць школьнікаў. Дарашэвіч лічыць, што гэта вельмі слушнае рашэнне:**

– На першай акцыі дзецям расказваюць, як смецце ўплывае на прыроду, чым яно шкоднае, калі не прыбіраць з лесу. А на наступны раз ужо гэтыя дзеці расказваюць пра шкоду смецця ў прыродзе сябрам і іншым удзельнікам акцыі. Атрымліваецца такі выхаваўчы момант.

### Што за Сусветны дзень прыборкі

Гэта штогадовая акцыя, у межах якой мільёны людзей збіраюцца, каб ачысціць планету ад смецця. У гэтым годзе далучыліся прадстаўнікі больш за 160 краін.

У Беларусі Міжнародны рух у межах акцыі называецца «Зробім!». Акцыі пад эгідай руху «Зробім!» у Беларусі ладзяць ад 2012 года.

У гэтым годзе астравецкі актывіст не збіраў шматлюдную акцыю ў сувязі з эпідэміялагічнай і палітычнай абстаноўкай, а здзейсніў яе разам з жонкай.


Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# У рэгіёне ёсць заробак амаль чатыры тысячы

## Працягваем разглядаць вакансіі

СМАРГОНЬ
АШМЯНЫ
АСТРАВЕЦ

**Прапануем агляд вакансій і заробкаў па Ашмянах, Астраўцу і Смаргоні, якія з'явіліся апошнімі днямі на сайце Дзяржаўнай службы занятасці.**


Фота Настассі УТКІНАЙ.

Па-ранейшаму самыя высокія заробкі прапануюць на БелАЭС у Астраўцы.

### Астравец: самыя высокі заробкі тут

У дзіцячы садок у вёску Малі на 0,4 стаўкі патрэбны прыбіральшчык. Прапануюць ад 150 рублёў. У гімназіі №1 дворніку – ад 375. Туды ж возьмуць рабочага на 0,25 стаўкі. Заробак ад 93 рублёў.

**«Еўрагандаль»** шукае загадчыкаў крамы і аддзела. Заробкі ад 1110 і ад 900 рублёў адпаведна. Туды ж возьмуць намесніка дырэктара – ад 900 і кантралёра-касіра – ад 750. У **«Дабраноме»** прапануюць менш: загадчыку аддзела – ад 650, касіру – ад 550.

Шмат спецыялістаў па-ранейшаму шукаюць на БелАЭС. Гэта начальнікі аддзела і цэха, інжынеры. Самы высокі абяцаюць таму, хто прыйдзе на пасаду вядучага спецыяліста – амаль ад чатырох тысяч рублёў.

### Ашмяны: балетмайстры і хормайстры – на паўстаўкі

У раённы метадычны кабінет патрэбны метадыст. Прапануюць ад 500. У ЖКГ возьмуць экаваміста, качагараў, прыбіральшчыка, электраманцёраў, рабочых, слесараў, водараздатчыка на паўстаўкі, кіроўцу пагрузчыка, кветкавода, машыніста помпавых установак. Электраманцёрам прапануюць ад 600 рублёў. Астатнім у межах 400-500.

Шукаюць спецыялістаў у культуру раёна – хормайстра, дырыжора, балетмайстраў, мастака-пастаноўшчыка, дырэктара клуба ў Крэйванцы, метадыстаў, кіраўніка гуртка. Большасць з прапаноў – на паўстаўкі. Гэта значыць, што спецыялісты атрымаюць ад 187,50.

Чакаюць і спецыялістаў у мясцовую ЦРБ. Патрэбная медсястра на паўстаўкі ў стаматалагічны кабінет і на стаўку – у кабінет імунапрафілактыкі. Заробкі – ад 187,50 і ад 375 – адпаведна. Возьмуць таксама доктара агульнай практыкі з заробкам ад 746 і доктара-фізіятэрапеўта – на паўстаўкі. Заробак – ад 285. На 0,75 стаўкі возьмуць інструктара па фізкультурна-аздараўленчай рабоце ў мясцовую ДЮСШ. Заробак – ад 281,25.

Шмат спецыялістаў запрашае сырзавод. Возьмуць эколага на паўстаўкі, сыраробаў, апаратараў лініі, слесараў – на стаўку. Найбольш – ад 620 рублёў – атрымаюць апаратары. А ў **«Еўрагандаль»**, як і ўсюды па рэгіёне, патрэбныя кантралёры-касіры. Заробак – ад 650.

Фельчар-лабарант, што прыйдзе ў мясцовы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, атрымае ад 460. Сюды ж патрэбныя дактары – паразітолаг, гігіеніст, памочнік гігіеніста, на паўстаўкі – доктар-лабарант. Найбольш атрымае гігіеніст. Яму прапануюць ад 810 рублёў.

У гаспадарку **«Прыгранічны»** – патрэбны кіроўца. Заробак – ад 450. Сюды ж шукаюць аграномa, ветфельчара, юрысконсульта. Усім – ад 375. Толькі трактарысту – ад 495. А вось трактарыст-машыніст у гаспадарцы ў Крэйванцах атрымае ад 710. Геадэзісту ў ДСУ-28 абяцаюць ад 650. Галоўнаму энергетыку ў гаспадарцы **«Кракоўка»** – ад 824.

Ашмянская раённая бібліятэка шукае інжынера-праграміста (ад 375). Ад 400 рублёў тут прапануюць і загадчыку, і рабочаму.

### Смаргонь: ёсць такая праца – абрубшчык сукоў

Камбінат хлебапрадуктаў возьме кіроўцу і прасаўшчыка гатовай прадукцыі. Заробкі – ад 500. На дзвесце рублёў больш атрымае электрагазазваршчык на агрэгатным заводзе. Вядучаму спецыялісту там прапаноўваюць ад 600, кіроўцу – ад 550. Філіял прадпрыемства **«Пінскдрэў»** запрашае абрубшчыка сукоў. Заробак – ад 800.

У ЖРЭС возьмуць муляра, цесляра, дахаўшчыка, электрагазазваршчыка. Усім – ад 600. У бальніцу патрэбныя санітарка і электраманцёр. Заробак – ад 385. Крыху больш атрымаюць фельчар і медсястра. Дактары ў Смаргоні атрымаюць ад 500 да 700 рублёў, а ў Войстаме – ад 800. У Залессе возьмуць акушэрку. Плаціць абяцаюць ад 400.

У яслі-садок, што ў вёсцы Сінькі, патрэбны кладаўшчык. Заробак – ад 375.

У сельскагаспадарчай арганізацыі **«Дэйрыфарм»**, дзе займаюцца вытворчасцю малака, патрэбныя ветэрынарны доктар і аграном. Заробкі – ад 1400 і 1200 адпаведна.

Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06



**ЛІЧБА НУМАРА**

**15989**

на столькі чалавек за апошнія 20 год паменшылася насельніцтва Вілейшчыны

Паводле Белстата.

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.09 | 24.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5781 | 2.5908 |
| Еўра | 3.0586 | 3.0296 |
| Злоты, 10 | 6.8822 | 6.7625 |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4420 | 3.3936 |
| Грыўня, 100 | 9.1813 | 9.1909 |
| **Курсы ў «Банку БелВЭБ»** | **16.09** | **23.09** |
| Еўра | 3.0100/3.1100 | 2.9800/3.0800 |
| Долар ЗША | 2.5400/2.6000 | 2.5400/2.6200 |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 16.09 | 23.09 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,99 | 23,99 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Сасіскі, 1 кг | 7,60 | 7,78 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | 9,50 |
| Карп жывы, 1 кг | 4,75 | 4,70 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,90 | 4,90 |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | 5,80 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,50 | 17,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | 2,15 |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | 2,40 |
| Алей, 1 л | 3,00 | 3,00 |
| Кава «Nescafe», 100 г | 4,80 | 5,50 |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | 2,15 |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,80 | 1,80 |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | 1,70 |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,80 | 1,80 |
| Агуркі, 1 кг | 2,00 | 2,30 |
| Бульба, 1 кг | 0,80 | 0,60 |
| Буракі, 1 кг | 0,80 | 0,70 |
| Капуста, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,00 | 2,00 |
| Морква, 1 кг | 0,80 | 0,80 |
| Памідоры, 1 кг | 1,60 | 1,50 |
| Перац, 1 кг | 2,20 | 2,00 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 1,00 | 1,00 |
| Часнок, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Апельсіны, 1 кг | 4,50 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 2,50 | 2,80 |
| Вінаград, 1 кг | 3,50 | 3,50 |
| Грушы, 1 кг | 2,90 | 2,80 |
| Дыня, 1 кг | 2,00 | 2,50 |
| Кавун, 1 кг | 1,20 | 1,00 |
| Ківі, 1 кг | 6,50 | 6,50 |
| Лімон, 1 кг | 3,90 | 3,50 |
| Мандарыны, 1 кг | 5,50 | 5,90 |
| Нектарыны, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Персікі, 1 кг | 4,20 | 5,00 |
| Хурма, 1 кг | 3,90 | 3,90 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,80 | 1,80 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Масла, 1 кг | 17,00 | 17,00 |
| Сала, 1 кг | 13,00 | 13,00 |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | 14,00 |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,20 | 3,20 |

## У лесе заблукалі дзве жанчыны. Выратавальнікаў выклікалі самі

АСТРАВЕЦ

16 верасня дзве жанчыны заблукалі ў лесе на Астравеччыне. Іх шукалі выратавальнікі.

У канцы дня жанчыны самі па мабільным тэлефоне звязаліся з выратавальнікамі. Паведамілі, што пайшлі ў грыбы ў раёне вёскі Трайгі і заблукалі.

Жанчын знайшлі. Меддапамога ім не спатрэбілася.

**Паводле БелТА.**

## Аўтамабіль сутыкнуўся з роварам. Пацярпеў равaрыст

ВІЛЕЙКА

Здарэнне адбылося 13 верасня каля апоўначы на другім кіламетры дарогі Рускае Сяло – Краснаполле.

Сутыкнуліся аўтамабіль «Фольксваген» і ровар. У выніку здарэння 36-гадовы мясцовы жыхар-раварыст атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. Яго забралі ў бальніцу.

За рулём машыны быў 41-гадовы вясковец з Рускага Сяла. Завялі крымінальную справу, паведамлілі ў Вілейскім РАУС.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Патраціў больш за дзвесце рублёў з карткі знаёмага

ВІЛЕЙКА

14 верасня ў Вілейскім судзе агучылі прыгавор мясцоваму жыхару. За крадзеж з банкаўскай карткі ён атрымаў два з паловай гады калоніі.

Гісторыя пачалася сёлета 4 чэрвеня. 32-гадовы віляйчук, які вызваліўся з турмы 8 мая, выпіваў разам са сваім знаёмым. Калі знаёмы заснуў, узяў яго банкаўскую картку і пайшоў з ёй па магазінах.

Амаль за чатыры гадзіны ён патраціў 243 рублі 74 капейкі. Тавар купляў на такія сумы, што пін-код не патрабаваўся.

Назаўтра пацярпелы заўважыў смс-паведамленні пра спісанне грошай, якія прыходзілі яму на тэлефон.

Па словах памочніка пракурора Вілейшчыны **Наталлі Стрэж**, абвінавачаны цалкам прызнаў сваю віну, але грошы не вярнуў. Пацярпелы не настойваў на строгім пакаранні і адмовіўся пісаць іск на вяртанне грошай.

З улікам усіх абставін, абвінавачанаму прызначылі пакаранне – два гады і шэсць месяцаў калоніі па артыкуле 212 часткі 2. Таксама яго будуць лячыць ад алкагалізму. Прыгавор у законную сілу не ўступіў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аварыі пад Радашкавічамі загінулі кіроўца і пасажыр аўтамабіля

МАЛАДЗЕЧНА

19 верасня ў Маладзечанскім раёне на аўтадарозе Радашкавічы – Алёхнавічы, на пад'ездзе да вёскі Валодзькі, каля 19 гадзін у аварыі загінулі кіроўца і пасажыр аўтамабіля.

33-гадовы мінчанін за рулём аўто «Додж-Караван», па папярэдняй інфармацыі, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет, у выніку чаго машына перакулілася. Загінуў кіроўца і 60-гадовы пасажыр. Абодва не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі, паведамлілі ў АДАІ Маладзечна.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Грыбны сезон – час, калі губляюцца грыбнікі.

# Маладзечанец паехаў у грыбы і там памёр

МАЛАДЗЕЧНА

**Пра гэта расказаў каардынатар пошукава-выратавальнага атрада «Анёл. Паўночны Захад» Максім Федаровіч.**

– 17 верасня, каля дзевяці раніцы, нам паступіла інфармацыя пра тое, што 16 верасня 57-гадовы маладзечанец паехаў у грыбы з вёскі Радзеўцы Маладзечанскага раёна і знік. Адразу на пошукі паехала група МНС. Я таксама выязджаў – яго шукаць, але патэлефанавалі работнікі МНС і паведамілі, што ўжо знайшлі цела мужчыны. Спачатку ўбачылі ровар, на якім мужчына паехаў у грыбы. А потым і яго. Па папярэдніх звестках, у смерці мужчыны няма крымінальнага характару. Па словах родных, ён меў хранічныя захворванні, – паведаміў каардынатар.

Следчыя праводзяць праверку па факце смерці.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Мужчыну падазраюць у хуліганстве ў парку

МАЛАДЗЕЧНА

Днём 31 жніўня кампанія непаўналетніх адпачывала ў парку. Міма праходзіў 50-гадовы мужчына, якому не спадабалася моладзь. У сувязі з чым у яго завязаўся з імі канфлікт.

Мужчына схапіў за шыю 17-гадовую дзяўчыну, а таксама стукнуў яе металічнай трубкай. Непаўналетнія вырашылі сысці з парку, каб пазбегнуць працягу канфлікту. Аднак мужчына пайшоў за імі, пра што яны паведамілі ў міліцыю. Неўзабаве фігуранта затрымалі.

У дачыненні да жыхара Маладзечна ўзбуджаная крымінальная справа па частцы 3 артыкула 339 Крымінальнага кодэкса (асабліва злосная хуліганства).

На допыце ён растлумачыў, што прычынай учынку стала празмернае алкагольнае ап'яненне.

**Паводле Следчага камітэта.**

## Невядомыя закідалі сырымі яйкамі акно дома пенсіянераў

МАЛАДЗЕЧНА

19 верасня невядомыя ў Радашкавічах закідалі сырымі яйкамі акно кватэры, дзе жывуць пенсіянеры. Сям'я мяркуе, што гэта здарылася з-за самаробнага бел-чырвона-белага сцяга, што вось ужо тыдзень прымацаваны да акна.

– Бацькі маёй жонкі ніякіх канфліктаў з суседзямі не маюць. Таму мы мяркуем, што ўсё здарылася з-за сцяга, – кажа зяць пенсіянераў **Уладзімір Садоўскі**.

Па яго словах, бацькі толькі паспелі заўважыць, як ад'язджае невядомая машына без нумароў. Ад шоку не падумалі сфатаграфаваць запэцканае акно і памылі яго.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Гарэла крама камп'ютарнай тэхнікі

МАЛАДЗЕЧНА

21 верасня ў 19:22 дыспетчару сектара маніторынгу сістэмы аўтаматычнай пажарнай сігналізацыі і перадачы паведамленняў аб надзвычайных здарэннях паступіў сігнал, што спрацавала аўтаматычная пажарная сігналізацыя і заўважылі задымленне ў краме.

Інфармацыю перадалі ў цэнтр аператыўнага кіравання Маладзечанскага ГРАНС. Да месца пажару накіравалі дзесяць машын. На месцы выратавальнікі заўважылі задымленне ў складскім памяшканні на першым паверсе двухпавярховай часткі «Модуля» ў краме «Эўрыка».

У выніку пажару пашкоджаныя бытавыя электрапрыборы, якія захоўваліся на стэлажах, і мэбля. Закураны сцены і столь.

**Аддзел інфармацыі.**

## Кіроўца заснуў за рулём, наехаў на бардзюр і знёс дрэва

МАЛАДЗЕЧНА

У нядзелю, 20 верасня, каля 6:30, здарылася аварыя на вуліцы Гарадоцкай. Па словах кіроўцы, ён заснуў за рулём.

Па папярэдняй інфармацыі, кіроўца-маладзечанец ехаў на «БМВ» па вуліцы Тамары Дудко ў бок вуліцы Гарадоцкай. Як паведамілі кіроўца інспектарам ДАІ, ён заснуў за рулём. На скрыжаванні, дзе трэба ехаць направа або налева, ён паехаў па прамой. Заскочыў на высокі бардзюр, праехаў яшчэ каля сямі метраў і знёс прыдарожнае дрэва.

**Ад удару кіроўца прачнуўся, выклікаў "хуткую дапамогу". Ніхто не пацярпеў.**

Пра здарэнне расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечна **Дыяна Галуза**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Шукаюць мужчыну, якога падазраюць у нанясенні цяжкіх цялесных пашкоджанняў

МЯДЗЕЛ

**Здарэнне адбылося 15 верасня, прыкладна ў пяць гадзін вечара, у вёсцы Баравая на Мядзельшчыне.**



**Прыкметы:** 40-45 гадоў, рост каля 165-170 сантыметраў, сярэдняга целаскладу, валасы з сівізной, блакітныя вочы. Шрам на лбе даўжынёй каля пяці сантыметраў, на правым перадплеччы рэшткі татуіроўкі.

**Быў апрануты**: шэрая майка, сінія спартыўныя штаны, чорныя гумовыя сланцы.

**Паводле МУС.**

# Чаму ў Вілейцы не вучаць па-беларуску і дзе збірацца, каб не атрымаць штраф

## Пра што вілейчукі гутарылі з дэпутатам

ВІЛЕЙКА

**22 верасня вілейчукі сустрэліся з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі Ірынай Супрановіч.**

– Мы выкарысталі сваё права выбаршчыкаў – раз на год папрасіць у дэпутата пазачарговую справаздачу, – патлумачыла карэспандэнту перад сустрэчай вілейская актывістка **Вольга Шостак**. Прыйшлі невялікім складам, выступаем за дыялог. Вырашылі ўзяць на сустрэчу спакойных людзей, каб было менш эмоцый. За гэту сустрэчу падпісаліся 430 чалавек. Падпісныя лісты перадавалі і мядзельцы, якія таксама маюць пытанні да Ірыны Супрановіч – дэпутата, што курыруе іх раён.

Падчас сустрэчы гараджане звярнуліся да дэпутата з наступнымі пытаннямі і пажаданнямі.

### Перагледзець грашовую дапамогу па доглядзе за інвалідам і дапамогу па беспрацоўі

Пытанні агучыў віляйчук **Ігар Шабан**:

– У сям'і маіх знаёмых жонка даглядае мужа-інваліда першай групы. Такі догляд – вельмі цяжкая праца. І 250 рублёў – гэта малыя грошы. Да таго ж догляд за інвалідам ідзе ў агульны стаж, а ў страхавы – не ідзе. Праз два гады жанчына стане пенсіянеркай. І з-за гэтага атрымае меншую пенсію.

Тое ж самае і з дапамогай па беспрацоўі. Як чалавеку пражыць на 50 рублёў, пакуль ён шукае новую работу ці перавучваецца? Я лічу, што трэба плаціць хаця б мінімальны заробак. Некаторыя не ідуць на біржу, бо не хочуць прыніжацца за гэтыя 50 рублёў. Таму трэба перагледзець падыходы і выплаты.

Ірына Супрановіч адзначыла, што пытанні выплат па доглядзе за інвалідам ужо разглядаюць у Палаце прадстаўнікоў. На павелічэнне дапамогі па беспрацоўі трэба знайсці грошы, але прапанова таксама патрэбная.

### Адкрыць беларускамоўныя класы ў Вілейцы, развіваць беларускую мову

Прысутныя прыгадалі лічбы апошняга перапісу. Згодна з імі, у параўнанні з 1999 годам менш людзей у Мінскай вобласці назвалі беларускую мову роднай. А быў час, калі беларускамоўныя класы працавалі ў гімназіі «Логас». Прайшло некалькі гадоў – іх не стала.

– Такая сітуацыя ідзе ад вышэйшага кіраўніцтва. Колькі разоў Аляксандр Лукашэнка за сваё кіраванне краінай выступіў па-беларуску? Чаму ва ўсіх краінах былога СССР прэзідэнты размаўляюць са сваім народам на нацыянальнай мове? Адзін наш – па-руску. У Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу таксама, відаць, мала людзей, якія размаўляюць па-беларуску. Пакуль кіруючыя колы краіны мы не павернем да беларускай мовы, да гэтага часу будзе праблема, – перакананы Ігар Шабан. – Такімі тэмпамі мы хутка забудзем родную мову. А гэта адна з прыкмет незалежнасці. Беларускамоўныя школы засталіся толькі на вёсцы. Мне крыўдна за мову.

Дэпутат пагадзілася з тым, што развіццё беларускай мовы трэба пачынаць з адукацыі і што прадстаўнікі дзяржаўнай улады павінны размаўляць па-беларуску.

### Стварэнне працоўных месцаў

Гараджане заўважылі, што будуюць мікраёны для моладзі, а працаваць маладым людзям няма дзе. Ездзяць у іншыя гарады і краіны. Патрэбная вытворчасць. А развівацца гандаль.

### Вырашыць праблему са старым будынкам кілбаснага цэха

Напалову разбураны будынак знаходзіцца не на ўскрайку, а ў цэнтры горада, побач з рэстаранам, гасцініцай, паркам. Ён псуе выгляд горада. Ужо некалькі год унутры будынка растуць дрэвы.

Ірына Супрановіч паабяцала падняць пытанне былога кілбаснага цэха на ўзроўні Мінаблвыканкама.



Дэпутат Ірына Супрановіч (у цэнтры) са сваім памочнікам Вольгай Шляпо падчас сустрэчы з вілейчукамі.

### Пабудаваць спартыўную залу для гульнявых відаў спорту

Гэта пытанне таксама прагучала ад Ігара Шабана як ад старшыні Федэрацыі футбола Вілейшчыны. У горадзе ёсць добры стадыён. А залы для гульнявых відаў спорту няма. У баскетбол, футбол спартсмены вымушаныя гуляць у непрыстасаваных залах, ад чаго могуць быць траўмы. Залы ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе і арганізацыях, напрыклад, у лягсасе, не падыходзяць па шматлікіх паказчыках, адзначыў мужчына. Сказаў, што гатовы дапамагчы вілейскім уладам скласці пісьмо ў вышэйшыя інстанцыі і абгрунтаваць неабходнасць такой залы.

### Адрамантаваць тратуары на вуліцы Астроўскага

З пажаданнем звярнулася жыхарка вуліцы **Галіна**. Па словах жанчыны, апошні раз тратуары рамантавалі ў 1980-я гады. Нават дзеці-школьнікі вымушаныя хадзіць па дарозе, бо тратуарная плітка ў дрэнным стане.

Прысутныя падтрымалі Галіну. Адзначылі, што праблема дарог заўсёды была балючай для Вілейкі.

### Адрамантаваць будынак Цэнтра дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі

– З нядаўняга часу я не працую ў цэнтры. Але хачу сказаць, што яму даўно патрэбны рамонт. Гэта гістарычны будынак, які шмат дзесяцігоддзяў служыць адукацыі. А сёння ён у крытычным выглядзе, – заўважыла Вольга Шостак. – Многія класы ў аварыйным стане. Таму і цэнтр іх не выкарыстоўвае, і ў арэнду здаць немагчыма. Туды нават заходзіць баяцца, каб са столі нешта не абвалілася.

### Дзе і як праводзіць масавыя мерапрыемствы, каб гэта было законна

Пытанне ад імя віляйчан таксама агучыла Вольга Шостак.

– Упершыню з парушэннем сваіх правоў на масавыя мерапрыемствы я сутыкнулася, калі ў Вілейку павінна была прыехаць даверaная асоба Святланы Ціханоўскай. Мерапрыемства дазволілі ўлады, а потым там пачалі экстранна рамантаваць тратуарную плітку. Нам улады адказалі, што рамонт запланаваны. Але ж няўжо яго нельга было зрабіць на дзень пазней?

Вольга адзначыла таксама, што ў законе аб масавых мерапрыемствах ёсць неадпаведнасці Канстытуцыі. Напрыклад, Канстытуцыя гарантуе свабоду сходаў і мітынгаў. А закон кажа, што за правядзенне масавых мерапрыемстваў трэба плаціць немалыя грошы.

Ірына Супрановіч пагадзілася з тым, што ў Законе аб масавых мерапрыемствах ёсць пэўныя прабелы.

### Удасканаліць выбарчую сістэму

Вілейчукі звярнулі ўвагу на тое, што падчас выбараў на некаторых участках не пабачылі пратаколаў, што незалежных назіральнікаў не пускалі на падлік галасоў. Адзначылі, што дадзеныя па ўчастках можна было б надрукаваць у СМІ і на сайце выканкама. Але з сайта выканкама ўвогуле зніклі ўсе дадзеныя па выбарах за 2020 год.

Калі мы ў інфармацыйным вакууме, складаецца ўражанне, што ад нас нешта хаваюць, фарміруецца недавер, сцвярджалі выбаршчыкі.

Ірына Супрановіч расказала, што ў Палаце прадстаўнікоў разглядаюць, як удасканаліць выбарчую сістэму. Асабліва звяртаюць увагу на наступныя пытанні:

– калі і дзе павінны быць вывешаныя пратаколы і колькі яны павінны вісець;

– як выкарыстоўваць інтэрнэт для інфармавання пра ход выбараў;

– як удасканаліць датэрміновае галасаванне

### Дзе і калі можна выкарыстоўваць пэўную сімволіку

У прысутных было пытанне пра тое, які нарматыўны акт забараняе выкарыстанне бел-чырвона-белага сцяга ў грамадскіх месцах і ва ўласных аўтамабілях. Па словах вілейчукоў, яны асабіста сутыкаліся з тым, што работнікі ДАІ спынялі машыны з бел-чырвона-белым сцягам і патрабавалі яго зняць.

Дэпутат паабяцала, што разгледзіць усе пытанні больш дэталёва, пры неабходнасці звернецца з запытамі ў пэўныя інстанцыі. Адзначыла таксама, што яна адкрытая да супрацоўніцтва і гатовая пагутарыць з кожным асабіста.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**

# ПРЫВАТНЫЯ АБ’ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб’яву**

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** |
| | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16** |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Аўто ў любым стане. Можна аварыйнае. Т. (8-033) 6612163.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дача 0,07 га ў в. Алянец Смаргонскага раёна, лес, р. Вілія. Т. (8-029) 6444731.

• Дом з усімі выгодамі ў Вілейцы. Т. (8-029) 7667446.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у аг Беразінскае, плошча 114 кв.м, участак 12 сотак, з усімі выгодамі, надворнымі пабудовамі, садам. Т. (8-029) 8597976.*

• Зруб. Т. (8-044) 4781305.*

### МЯНЯЮ

• 3-пакаёвую кватэру на 1-пакаёвую або 2-пакаёвую, Вілейка, р-н «Зеніт». Т. (8-033) 3018245.

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселле, юбілей, карпаратыў. Музычнае афармленне. Вядучы. ІП Язневіч Л.М. УНП 692245902 Т. (8-044) 5945440.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Івека да 3 т. Маладзечна, РБ. ІП Вайшнаровіч А. З. УНП 692248968 Т. (8-029) 7775442.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Абітурыентам і школьнікам. Хімія. Біялогія. Рэпетытар. Т. (8-029) 3275496.*

• Бурэнне свідравін (свідравін) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733 Т. (8-029) 3603663, (8-029) 8331245.*

• Бурэнне свідравін (свідравін). Калонкі. Помпы. Падвод вады да дома. Наяўны/безнаяўны разлік. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. А1 (8-029) 1287878, МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Каркаснае будаўніцтва. Вокны ПВХ. Дах, Сайдынг. Рамонт. Замена. Абслугоўванне. ІП Котаў У.І. УНП 692241473 Т. (8-029) 2541558, (8-029) 7659498.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Наносім фота на кубак, майку. Смаргонь, вул. Танкістаў, 8 «НгС». ІП Улан Р.В. УНП 690288442 Т.(8-029) 6631595.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Вэлком (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. (8029) 3395974.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• **СПІЛОЎВАННЕ ДРЭЎ.** АБРЭЗКА. ДРАБНЕННЕ ГАЛІНАК І ПНЕЎ. ІП Таўгень. Е.П. УНП 691882722. Т. (8-033) 6330830. Вайбер.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Узворванне. Культывацыя. Выдаленне бульбоўніку. Уборка бульбы КТН-2В. ІП Каркоцкі С.В. УНП 692246779 Т. (8-029) 7682028.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Камп’ютары, TV, сродкі сувязі**



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Інда-качкі. Т. (8-029) 5005707, (8-01771) 38177.

• Карова, авечкі. Т. (8-029) 1707186.*

• Карова, 3 гады, чорна-пярэстая. Т. МТС (8-029) 2611253.

• Распродаж парасят кармалаў. Т. (8-044) 5321975, (8-029) 7621019.

• Свінні белыя і в’етнамскія на мяса. Парасяты в’етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

• Парасяты в’етнамскай пароды буйных – 60 руб., парасяты пароды кармалы – 70 руб. Т. (8-029) 8509854.

• Парасяты пароды кармалы узростам 5-6 тыдняў. Т. (8-033) 6316635, (8-0176) 503195.



• Хамякі і папугай амадзін. Т. (8-029) 5019550.*

**Іншае**

• Балон газавы. Т. (8-044) 4944849, (8-0176) 532172.

• Дровы, дошкі. Т. (8-029) 6106061.*

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Пшаніца, жыта, бульба буйная, дробная. Т. (8-033) 6020455, (8-044) 4930237.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8025) 7894666.*

• Бульба буйная ласунак з дастаўкай па Маладзечне і Смаргоні. Т. (8-029) 7664214.

### КУПЛЮ

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Кабана, свінню. Т. (8-033) 3401475.*

• Самца хвалістага папугая або папугая карэла. (8-029)5019550.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Арганізацыі на пастаянную работу патрабуюцца швачкі (брыгада). ТАА «МісСью» УНП 691888958 Т. (8-029) 3482283.*

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю працу па рамонце драўляных дамоў (замена старых бярвенняў), рамонт падмуркаў, дахаў. Т. (8-029) 8745410.*

# Дайджэст. Што адбывалася ў Беларусі ў апошні тыдзень

**Прапануем агляд некаторых падзей, якія адбыліся ў Беларусі за апошні тыдзень.**

### Прайшла інаўгурацыя Аляксандра Лукашэнкі

23 верасня прайшла інаўгурацыя Аляксандра Лукашэнкі. Журналісты «Рэгіянальнай газеты» не знайшлі анонсаў пра мерапрыемства. Прамой трансляцыі па дзяржаўных тэлеканалах таксама не было. Хаця, згодна з Законам аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, інаўгурацыя павінна трансліравацца.

### Мытня ўзмацніла кантроль фізасоб на мяжы

– З улікам існуючай абстаноўкі на мяжы з Еўрасаюзам беларуская мытня ўзмацніла мытны кантроль, у тым ліку ў дачыненні да фізічных асоб, якія вязуць праз мяжу тавары, – паведамілі ў прэс-службе ДМК. – Гэта зроблена для таго, каб не дапусціць перамяшчэння праз мяжу забароненых і абмежаваных тавараў, а таксама ўвозу камерцыйных партый тавару пад выглядам тавараў для асабістага карыстання.

### Беларусам дазволілі лятаць у Расію на самалёце

Урад Расіі дазволіў грамадзянам Беларусі ўезд на тэрыторыю Расіі праз паветраныя пункты пропуску. Гэта прадугледжана распараджэннем, апублікаваным сёння на сайце расійскага кабінета міністраў. Пакуль палёты ў Беларусь і назад будуць ажыццяўляцца авіякампаніямі на ўзаемнай аснове з перыядычнасцю раз у тыдзень. Забарона на ўезд у Расію аўтамабільным і чыгуначным транспартам захоўваецца.

### Літва спрашчае выдачу віз беларусам

Міністэрства замежных спраў Літвы спросціць выдачу нацыянальных віз беларускім грамадзянам, яны будуць выдавацца на паўгода і пры афармленні спатрэбіцца мінімальны пакет дакументаў.

Паводле інфармацыі МЗС, ад 21 верасня ў Літве да беларусаў будуць прадʼяўляцца такія ж умовы выдачы нацыянальных віз, як да грамадзян Аўстраліі, Японіі, Злучанага Каралеўства, Злучаных Штатаў Амерыкі, Канады, Новай Зеландыі і Паўднёвай Карэі.

### У трох медуніверсітэтах – новыя рэктары

21 верасня Лукашэнка змяніў рэктараў у трох медыцынскіх універсітэтах. Цяпер Беларускім дзяржаўным медуніверсітэтам кіруе **Сяргей Рубнiковiч**, Гомельскім – **Ігар Стома**, Гродзенскім – **Ірына Кротава**.

### У Брэсце супраць пратэстоўцаў выкарысталі газ

20 верасня жыхары Брэста выйшлі на марш пратэсту. Для разгону ўдзельнікаў міліцыя выкарыстала слёзатачывы газ, а пасля страляла светлашумавымі патронамі ў паветра. А тыдзень таму, 13 верасня, у Брэсце супраць пратэстоўцаў выкарыстaлі вадамёт.

### Мужчына падпаліў сябе ля Смалявіцкага РАУС

18 верасня ў Смалявічах, ля ўваходу ў РАУС, 36-гадовы мужчына падпаліў сам сябе. Па афіцыйнай інфармацыі, ён меў праблемы з псіхікай і алкаголем. З апёкамі 90 працэнтаў цела яго забралі ў бальніцу. 19 верасня мужчыну перавезлі ў Мінскі апёкавы цэнтр.

### Хасіды з Беларусі не трапілі на святкаванне свайго новага года

18 верасня больш за тысячу паломнікаў-хасідаў, якія правялі некалькі дзён на нейтральнай паласе мяжы Украіны з Беларуссю паблізу прапускнога пункта «Новыя Ярылавічы», вярнуліся на тэрыторыю Беларусі. Усе яны збіраліся даехаць на святкаванне іудзейскага новага года ва ўкраінскі горад Умань, дзе размешчаныя іх галоўная святыня. Аднак украінскія памежнікі адмаўляліся прапусціць іх на тэрыторыю краіны, спасылаючыся на ўрадавую пастанову, якая забараняе ўезд ва Украіну замежнікам.

**Аддзел інфармацыі.**



Кадр з фільма «Бляшаны барабан». Оскар б’е ў барабан – гэта яго пратэст у адрас таму, што адбываецца ў дарослым свеце.

# Тры ўрокі скандальнага фільма «Бляшаны барабан»

**Калі ў 1979 годзе выйшаў фільм «Бляшаны барабан», яго чакаў яшчэ большы скандал, чым аднайменны раман нямецкага аўтара Гюнтара Граса, на аснове якога і знялі карціну.**

Філасофскай драме ставілі ў віну вялікую колькасць інтымных сцэн, у якіх удзельнічалі непаўнагадовыя акцёры. Тым не менш фільм атрымаў «Залатую пальмавую галіну» Канскага кінафестывалю і «Оскар» як найлепшая карціна на замежнай мове.

**Час толькі ўпэўніў значнасць карціны, і цяпер «Бляшаны барабан» лічаць адным з найлепшых фільмаў нямецкай новай хвалі. Прагляд фільма да 18 год не рэкамендуецца.**

## Скандальны пісьменнік

«Бляшаны барабан» – гэта гратэскны дэбютны раман нямецкага пісьменніка Гюнтара Граса і самая паспяховая яго праца. Галоўная тэма творчасці Граса – асэнсоўванне досведу нацызму, высвятленне яго прычын і таго, чаму гэта ідэя захапіла так шмат людзей і выклікала Другую сусветную вайну.

Грас нарадзіўся ў 1927 годзе, і развіццё нацызму і наступныя ваенныя дзеянні разварочваліся перад яго дзіцячымі вачыма. Ён браў удзел у гітлерюгендзе, у 16 год стаў памочнікам у люфтвафэ, прасіў залічыць яго ў ваенна-марскія сілы, служыў у танкавай дывізіі СС. Толькі ў 2006 годзе Грас публічна прызнаў, што пайшоў у вермахт па сваёй волі, а пасля яго прызвалі ў СС. Пісьменнік дадаў, што не здзяйсняў ваенных злачынстваў і ні разу не страляў.

Ён прысвяціў сваё творчае жыццё аналізу таго, чаму ён, як і многія іншыя землякі, стаў адной з частак, што ўтваралі Трэці рэйх. У пасляваенны час існаваў рух творчай інтэлігенцыі пад назвай «пераадоленне мінулага», у межах якога гэты аналіз стаў цэнтральнай тэмай.

**У 1999 годзе Грас стаў лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры.**

## Самаідэнтыфікацыя

Асноўная праблема з экранізацыяй кнігі палягала ў галоўным героі. Па сюжэце галоўны герой Оскар перастаў расці ў тры гады. З году ў год з ім адбываюцца розныя падзеі, але цалам ён павінны заставацца такім жа хлопчыкам. На гэту ролю адабралі 12-гадовага на той момант Давіда Бэнэнта.

Адна з тэм філасофскага фільма – прыналежнасць і самаідэнтыфікацыя. Оскар нарадзіўся ў сучасным Гданьску, яго маці кашубка. А вось з татамі ўсё больш складана. Маці Оскара Агнэс жыве і з палякам Янам, і з немцам Альфрэдам. З Янам яны кахаюць адзін аднаго, а Альфрэд лічыцца больш перспектыўным партнёрам, за яго жанчына і выходзіць замуж.

Такая сітуацыя сімвалізуе сітуацыю ў Гданьску, за які былі спрэчкі паміж Польшчай і Германіяй. Фільм апісвае, наколькі разбуральная такая сітуацыя для хлопчыка. Таму ў знак пратэсту супраць заблытанага ладу дарослых ён вырашыў, што перастане расці.

**Сваім бацькам Оскар лічыў Яна. На дзень нараджэння ў тры гады маці падарыла сыну барабан у нацыянальных колерах Польшчы – чырвоны з белым. З гэтага часу барабан стаў адзіным, што цікавіла Оскара.**

## Рытм

Оскар расце, а ў горадзе развіваецца нацыянал-сацыялістычная партыя. У гэты час партыю недалюбліваюць, дарослыя шмат яе абмяркоўваюць. Муж Агнэс уступае ў партыю. У доме ён здымае з пачэснага месца партрэт Бетховена і вешае на яго месца выяву фюрэра.

Адной з яскравых сцэн фільма становіцца мітынг у падтрымку партыі. На ім збіраюцца шматлікія мясцовыя важныя людзі, зганяюць школьнікаў, якія трымаюць сцяжкі са свастыкай. На мерапрыемстве павінны выступіць важны партыец, і аркестр гучыць гучна і ўрачыста. Пад сцэну залазіць Оскар і на сваім чырвона-белым барабане пачынае адбіваць свой такт. Аркестр збіваецца і пачынае іграць танцавальную музыку, гледачы кідаюцца вальсаваць, пачынаецца дождж, усе разбягаюцца, і мерапрыемства зрываецца.

## Крыштальная ноч

Асаблівa сумная частка, якая адлюстроўвае, што мірнае жыццё скончанае. Барабаны для Оскара куплялі ў лаўцы цацак яўрэя Маркуса. Прадавец заўсёды быў уважлівы і клапатлівы і да Агнэс, і да своеасаблівага хлопчыка. Оскар купляў чырвона-белыя барабаны менавіта тут.

Але аднойчы здарылася тое, што ў гісторыі назвалі Крыштальнай ноччу. Гэта пагромы, якія ўчынілі ваенізаваныя атрады Нацыянал-сацыялістычнай нямецкай рабочай партыі і грамадзяне.

**Яны разбівалі вітрыны яўрэйскіх магазінаў, сінагог і іншых будынкаў. Паліцыя ніяк не перашкаджала таму. Гэта падзея лічыцца пачаткам Галакосту.**

Фільм мае шмат іншага сэнсу і тэм, якія будзе асабліва цікава прааналізаваць абазнаным у гісторыі гэтага перыяду людзям.

**Эмілія ХВОЯ.**



# тэлетыдзень

**28 верасня – 4 кастрычніка**

Передрук праграмы забаронены.
У праграме магчымыя змяненні.

**27 каналаў ад «Рэгіянальнай газеты»**

● СТУЖКА ТЭЛЕТЫДНЯ

# «Чыкі»



Фота kazanfirst.ru.

**Расійскі камедыйна-драматычны серыял. Прэм'ера першых серый адбылася 4 чэрвеня 2020 года ў інтэрнэце. Інтэрнэт-кінатэатр more.tv размяшчаў новыя серыі штотыдзень па чацвяргах. Усяго выйшла 8 серый.**

### Сюжэт

Поўдзень Расіі: палі сланечнікаў, шашлычны дымок, саспелыя кавуны, джыгіты на конях і «Жыгулях». У трасы ёсць кафэ «Калізей», каля яго працуюць прастытуткі. Гісторыя пачынаецца са знаёмства гледача з некаторымі з іх, трыма сяброўкамі – Святланай, Марынай і Людкай. Раней іх было чацвёра. Самая смелая і прадпрымальная – Жанна – з'ехала ў Маскву, вярнулася на чырвоным «Міні Куперы» з ідэяй пачаць свой бізнес. Адна за другой сяброўкі далучаюцца да плана завязаць з брудным мінулым. Гэта цяжка і нават небяспечна, але яно сапраўды таго варта.

### Як і дзе здымалі

Здымкі пілотнай серыі праекта прайшлі ў жніўні 2018 года. Асноўныя здымкі праходзілі ў ліпені-кастрычніку 2019 года ў Кабардзіна-Балкарыі. Працоўнымі назвамі серыяла былі «Пяць жанчын» [11] і «Спяваць, піць, плакаць».

4 верасня 2019 года ў горадзе Прахладны здымачную групу серыяла абстраляў з паляўнічай стрэльбы «Сайга» мясцовы жыхар, які знаходзіўся ў стане алкагольнага ап'янення. Ён стрэліў 15 разоў, пашкодзіў адзін са здымачных аўтамабіляў. Перад гэтым мужчына выкрыкваў абразы, а таксама скінуў на акцёраў кавун. Ніхто не пацярпеў, зламысніка затрымала расійская паліцыя.

Фатаграфіі здымачнага працэсу серыяла рабіў фатограф **Дзмітрый Маркаў**, які здымае ў сваёй асаблівай стылістыцы толькі на iPhone. Пасля заканчэння працы над серыялам, Маркава запрасіў на здымкі свайго новага фільма «Пятровы ў грыпе» рэжысёр **Кірыл Сярэбранікаў**.

У ліпені 2020 года стваральнік серыяла **Эдуард Аганесян** афіцыйна заявіў аб тым, што серыял не будзе падоўжаны на другі сезон.

### Рэйтынгі і меркаванні

Серыял паказаў самы паспяховы старт у гісторыі інтэрнэт-кінатэатра more.tv. За тры тыдні першыя чатыры серыі сабралі 3,5 мільёна праглядаў. Праект таксама ўзначаліў вяршыню самых папулярных праектаў па запытах на «КиноПоиске» і незалежны рэйтынг партала Filmpro па папулярнасці серыялаў у Інтэрнэце.

**Сяргей Сычоў, «Вести»**: «Гэта не эпатажнае хуліганства на слабо, а сатыра ў духу Гогаля і Салтыкова-Шчадрына, гуманістычная, назіральная, спачувальная прыніжаным і абражаным, якіх заўсёды значна больш, чым мы прывыклі думаць».

**Сяргей Яфімаў, «Комсомольская правда»**: «Галоўнае, што ў «Чыках» ашаламляе з першых секунд – неверагодная, недаступная розуму праўда жыцця ў кадры».

**Юлія Шагельман, «Коммерсантъ»**: «Вядома, цэнтральны вобраз «прастытукі з залатым сэрцам» зусім не новы – узяць хоць Сонечку Мармеладаву, хоць інтэрдзяўчыну, з якой у «Чык» відавочна прасочваецца тэматычная і інтанацыйная сувязь. Аднак хіба не ўпершыню за апошнія гадоў 30 на расійскім тэлебачанні прастытуткі не «таксама людзі», а проста – людзі.

Серыял даступны ў інтэрнэт-кінатэатрах.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.50, 18.10, 21.05, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 16.00** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.55, 20.45** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.25, 19.50** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**10.00** Д/ф.
**10.50** Смотрим всей семьей «Гарри Поттер. Дары смерти».
**13.20, 18.15** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**14.20** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**16.30** Х/ф **«АРАХИСОВЫЙ СОКОЛ».**
**19.15** «Суперлото».
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ПРИМАДОННА».**
**23.05** Х/ф **«ВЕСЕЛАЯ ПАСХА».**
**0.35** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**ВТОРНИК, 29 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 18.15, 21.10, 1.35** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.30** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.25, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**9.00, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**9.55** «Архив СБ ТВ».
**11.00** Х/ф **«ПРИМАДОННА».**
**13.00, 18.20** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**14.00** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**15.20** Погода + Эрана.
**15.55** Кулинарная программа «Готовь как шеф!».
**16.15** Х/ф **«ВОЗМЕЗДИЕ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ШПИОН».**
**23.10** Х/ф **«СОУЧАСТНИКИ».**
**0.40** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**СРЕДА, 30 СЕНТЯБРЯ**

**7.00, 15.40, 21.10, 0.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05, 15.50** «Мульт-парад». «Далматинец».
**7.30, 15.45, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**10.00** Кулинарная программа «Готовь как шеф».
**10.20** Д/ф «АФРИКА».
**11.20** Х/ф **«ШПИОН».**
**13.15, 18.20** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**14.10** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**16.15** Х/ф **«ЭВЕРЕСТ».**
**18.15** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ОСТРОВ ПРОКЛЯТЫХ».**
**23.35** Т/с **«БУЛЬВАРНЫЕ УЖАСЫ».**

**ЧЕТВЕРГ, 1 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.35, 21.10, 1.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Далматинец».
**7.30, 15.40, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.30, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**10.00** Д/ф.
**10.45** Х/ф **«ОСТРОВ ПРОКЛЯТЫХ».**
**13.05** Т/с **«БЛАГИЕ ЗНАМЕНИЯ».**
**14.00** Т/с **«СУВЕНИР ИЗ ОДЕССЫ».**
**15.45** «Мульт-парад». «Далматинец».
**16.10** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ИТАЛЬЯНЦЕВ В РОССИИ».**
**17.55** «Фешн is my профешн».
**18.10** Т/с **«ВЕДЬМАК».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЗОЛОТАЯ СТРЕЛА».**
**0.15** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ».**

**ПЯТНИЦА, 2 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.55, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мульт-сериал «Далматинец».
**7.30, 16.00, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ФЛЭШ».**
**8.20, 19.15** Т/с **«ОДНАЖДЫ В РОСТОВЕ».**
**9.50** «Удачные советы» СБ ТВ.
**10.25** Х/ф **«ЗОЛОТАЯ СТРЕЛА».**
**13.25, 18.10** Т/с **«ВЕДЬМАК».**
**14.25** Х/ф **«НА БРАЙТОН БИЧ ХОРОШАЯ ПОГОДА».**
**16.05** «Мульт-парад». «Далматинец».
**16.30** Х/ф **«СОНИК В КИНО».**
**19.10** «Погода».
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ПЕРВАЯ ДОЧЬ».**
**23.05** Х/ф **«ВОЗРОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**
**1.50** Т/с **«ХОДЯЧИЕ МЕРТВЕЦЫ».**
**2.35** «Погода»+ «Эрана».

**СУББОТА, 3 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 15.10, 18.55, 21.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** Мультфильмы.
**8.45** «Приколы 13-й школы».
**8.50** Х/ф **«АМЕРИКАНСКАЯ ДОЧЬ».**
**10.25** Х/ф **«КРЕПОСТНОЙ».**
**12.25** Х/ф **«ВОЗРОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**
**15.15** Смотрим всей семьей «Гарри Поттер».
**17.30** Х/ф **«НА МЕСТЕ ПРИНЦЕССЫ».**
**19.00** Х/ф **«НЕВЕРОЯТНЫЙ МИР ГЛАЗАМИ ЭНЦО».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.00** «Фешн is my профешн».
**21.20** «Герои комиксов на экране» Фантастический триллер «Хранители».
**0.00** Х/ф **«ПАДЕНИЕ АНГЕЛА».**
**2.00** «Погода».

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 4 ОКТЯБРЯ**

**7.00, 14.00, 17.05, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Иван царевич и серый волк».
**8.35** «Приколы 13-й школы».
**8.40** Х/ф **«ЗВЕЗДА ПЛЕНИТЕЛЬНОГО СЧАСТЬЯ».**
**11.25** Х/ф **«ПРОТИВ ФЕРРАРИ».**
**14.05** «Смотрим всей семьей» Мультфильм «Садко».
**15.25** Х/ф **«ЧЕРЕПАШКИ НИНДЗЯ».**
**17.10** «Детектив на экране».
**18.40** Т/с **«КАСЛ».**
**19.25, 2.15** «Погода».
**19.30** Х/ф **«КОТЕНОК».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ТИТАНИК».**
**0.30** Х/ф **«ПОСЛЕ».**



## МКТВ

**ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 СЕНТЯБРЯ**

**6.30, 22.25** Мажорный лад.
**8.00** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**10.00** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**12.10** Рядом со звездой.
**12.20, 18.50, 22.15** Афиша.
**12.30** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**
**14.00** Х/ф **«ОДНОЙ ЛЕВОЙ».**
**15.30** Новости БЖД.
**15.45** Х/ф **«НЕАДЕКВАТНЫЕ ЛЮДИ».**
**18.40** Протокол.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**19.15** Фрагменты истории.
**19.25** Актуально.
**20.15** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».**

**ВТОРНИК, 29 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15, 8.20** Фрагменты истории.
**8.15** А знаете ли вы?
**8.25** Реликвия: сохраненные ценности.
**8.30** Х/ф **«СЕМЕЙКА АДДАМС».**
**10.00** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ».**
**12.00** Х/ф **«М+Ж».**
**14.00** Х/ф **«МОЁ БОЛЬШОЕ ГРЕЧЕСКОЕ ЛЕТО».**
**15.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**17.15** Мая Радзіма.
**18.50** Афиша.
**19.15** Всё обо всём.
**19.30** Будьте здоровы.
**20.15** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СРЕДА, 30 СЕНТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: Время местное.
**7.15, 19.15** Гость в студии.
**7.30** Мая Радзіма.
**8.15** Х/ф **«КРОЛИК ПИТЕР».**
**10.30** Х/ф **«ЛЮБОВЬ В БОЛЬШОМ ГОРОДЕ».**
**13.00** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**15.40** Х/ф **«ИРОНИЯ СУДЬБЫ. ПРОДОЛЖЕНИЕ».**
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**20.15** Театральная гостиная.
**20.30** Музыкальная открытка.
**22.15** Мажорный лад.

**ЧЕТВЕРГ, 1 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Майстэрства і фантазія.
**10.50** Х/ф **«МИЛЛИАРД».**
**12.10** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**14.10** Х/ф **«ЛЕГЕНДА ЗОРО».**
**16.00** Х/ф **«КОРСИКАНЕЦ».**
**18.00, 19.40** Мая Радзіма.
**18.50** Афиша.
**19.15** Театральная гостиная.
**19.30** Протокол.
**20.15** Х/ф **«ДОМИК В СЕРДЦЕ».**
**22.15** Мажорный лад.

**ПЯТНИЦА, 2 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**12.00** Х/ф **«БОЛЬШОЕ ПУТЕШЕСТВИЕ».**
**13.30** Х/ф **«ДОБРО ПОЖАЛОВАТЬ В ДЖУНГЛИ».**
**15.35** Х/ф **«ИЗ 13 В 30».**
**17.25** Актуально.
**17.45** Реликвия: сохраненные ценности.
**18.50, 21.50** Афиша.
**19.00, 20.00, 22.00** Время местное. Итоги.
**19.15** Майстэрства і фантазія.
**20.15** Х/ф **«ЗАВТРАК У ПАПЫ».**
**22.15** Мажорный лад.

**СУББОТА, 3 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15, 22.15** Мажорный лад.
**8.15** Будьте здоровы.
**8.40** Х/ф **«ДЕНЬ СУРКА».**
**10.05** Х/ф **«ДА ЗДРАВСТВУЕТ ФРАНЦИЯ!».**
**12.10** Х/ф **«ВТОРАЯ ЖИЗНЬ УВЕ».**
**14.20** Х/ф **«БАРМЭН».**
**15.50, 21.10** Новости БЖД.
**16.40** Х/ф **«БОЛЬШЕ ЧЕМ ДРУГ».**
**18.50, 20.15, 21.50** Афиша.
**19.15** Рядом со звездой.
**20.30** Музыкальная открытка.

**ВОСКРЕСЕНЬЕ, 4 ОКТЯБРЯ**

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**8.20** Х/ф **«ЭЙР АМЕРИКА».**
**10.25** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ».**
**12.40** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ».**
**14.50** Х/ф **«ШПИОН, КОТОРЫЙ МЕНЯ КИНУЛ».**
**16.50** Х/ф **«ОТПЕТЫЙ МАЧО».**
**18.20** Х/ф **«БАБУШКА ЛЁГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**20.55** Х/ф **«АМЕЛИ».**

# нядзеля, 4 кастрычніка

## Беларусь 1

**6.45** Х/ф **«МОИ ДОРОГИЕ».**

**8.20** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.45** Истории спасения.

**10.20** Родные люди.

**10.40** Зона Х. Итоги недели.

**11.15** Вокруг планеты.

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«БЛЮЗ ДЛЯ СЕНТЯБРЯ».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Х/ф **«1418 ДНЕЙ. ИСТОРИЯ ПОБЕДЫ».**

**15.55** Один день.

**16.25, 19.10** Х/ф **«ЛУЧШЕ ВСЕХ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«УЧИЛКА».**

## Беларусь 2

**7.05** Т/с **«НЕ РОДИСЬ КРАСИВОЙ».**

**8.45** Т/с **«СТИЧ!».**

**9.25, 19.40** Телебарометр.

**9.30** «До свидания». Реалити-шоу.

**10.25** «Человек-невидимка». Реалити-шоу.

**11.25** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.20** Х/ф **«НОКДАУН».**

**14.45** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**17.55** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**20.10** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.15** Х/ф **«ЗАТЕРЯННЫЙ ГОРОД Z».**

**23.35** Х/ф **«СЕМЕЙНЫЕ ЦЕННОСТИ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.20, 20.20** Навіны культуры.

**8.20, 13.40** «Гэты дзень».

**8.25** «Дайце кнігу скаргаў». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Страва з куранят з агрэстам.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Папярэдняе расследаванне». Мастацкі фільм.

**13.45** «Доктар Шуба». Дакументальны фільм. Рэжысёр — Анатоль Алай.

**14.25** «Адзін шанц з тысячы». Мастацкі фільм.

**15.45** Жорж Бізэ. «Кармэн». Опера Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі.

**18.15** «Вуліца поўная нечаканасцяў». Мастацкі фільм [СТ].

**19.25** «Кадры жыцця». Дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь Уладзімір Пракапцоў.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Ясенін». Шматсерыйны мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 18.00** Наши новости.

**7.15** «Здоровье».

**8.10** «Жанна Бадоева в проекте-путешествии «Жизнь других».

**9.15** «Воскресная проповедь».

**9.30** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.50** Х/ф **«ЖЕНЩИНА С ЛИЛИЯМИ».**

**11.35** «Видели видео?».

**13.50** «На дачу!» с Ларисой Гузеевой.

**15.00** «Пусть говорят». Надежда Бабкина.

**16.20** Премьера. Концерт Надежда Бабкиной.

**18.20** «Три аккорда». Новый сезон.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?». Осенняя серия игр.

**22.35** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**22.55** Х/ф **«ПОБЕГ».**

## СТВ

**6.35, 0.05** «Секретные территории».

**8.15** Документальный проект.

**9.10** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловать».

**10.30** «Большой город».

**11.00, 20.50** Документальный спецпроект.

**12.55, 13.40, 16.40** Т/с **«БОЕЦ. РОЖДЕНИЕ ЛЕГЕНДЫ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**22.30** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Х/ф **«СЕРДЦА ЧЕТЫРЕХ».**

**5.10** Мультфильмы.

**6.40** Х/ф **«ЗДРАВСТВУЙТЕ, Я ВАША ТЕТЯ».**

**8.50** «Любимые актеры 2.0». Армен Джигарханян.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10** Х/ф **«ЗНАХАРЬ».**

**13.00** Х/ф **«ТЫ – МНЕ, Я – ТЕБЕ».**

**14.45, 16.15, 19.30** Т/с **«БОЛЬШАЯ ПЕРЕМЕНА».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**21.45, 1.00** Х/ф **«ТАНЦОР ДИСКО».**

**1.35** Т/с **«МИФ ОБ ИДЕАЛЬНОМ МУЖЧИНЕ».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.10** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**6.45** «50 рецептов первого».

**7.20** «Кто в доме хозяин?».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.50** Беларусы.

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Первая передача».

**10.50** «Чудо техники».

**11.35** «Дачный ответ».

**12.35** Истории спасения.

**13.05** «НашПотребНадзор».

**14.00** Х/ф **«НЕПОБЕДИМЫЙ».**

**16.15** За гранью.

**16.35** «Следствие вели…».

**18.05** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** «Звезды сошлись».

**21.20** Ты не поверишь!

**22.15** «Основано на реальных событиях».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.00** Х/ф **«ПО ТУ СТОРОНУ СЧАСТЬЯ».**

**10.35, 11.30** Х/ф **«НЕЗАБУДКИ».**

**11.00** ВЕСТИ.

**14.40** Х/ф **«ГОСТЬЯ ИЗ ПРОШЛОГО».**

**16.30** Х/ф **«ИСКУШЕНИЕ НАСЛЕДСТВОМ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.25** Х/ф **«ДОПУСТИМЫЕ ЖЕРТВЫ».**

**23.00** «В людях».

**23.30** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**0.10** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**7.45** Улыбка Моны Лизы. **9.55, 0.10** Области тьмы. **11.45** Знакомьтесь, Джо Блэк. **15.00** Легенды осени. **17.25** Пингвины Мадагаскара. **19.00** Джуманджи. **20.50** Библиотекарь: В поисках копья судьбы. **22.35** Анаконда. **2.00** Облачный атлас. **5.00** Двойная жизнь Чарли Сан-Клауда.

### TV1000 ACTION

**6.50** Галвестон. **8.20** Железный кулак. **9.55** Геракл: Начало легенды. **11.25** Орёл Девятого легиона. **13.20** Призрачный гонщик. **15.10** Призрачный гонщик 2. **16.50** Человек-паук. **19.00** Человек-паук 2. **21.10** Человек-Паук 3. **23.35, 5.10** Годзилла. **1.55** Город грехов 2: Женщина, ради которой стоит убивать. **3.35** Телохранитель.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**7.05** Ржевский против Наполеона. **8.35** Всё или ничего. **10.05** All inclusive, или Всё включено! **11.50** Всё включено 2. **13.35** Везучий случай. **15.15** Семь ужинов. **16.55** Лёд. **19.00** Один вдох. **20.50** Со дна вершины. **22.40** Чемпионы: Быстрее. Выше. Сильнее. **0.25** Сёстры. **2.10** Женщины против мужчин. **3.45** 30 свиданий.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **8.00** «Рисуем сказки». **8.15** «Новый день». **8.45** Х/ф **«БЕТХОВЕН-3». 10.45, 23.30** Х/ф **«КРУТЯЩИЙ МОМЕНТ». 12.30** Х/ф **«ИГРА». 15.00** Х/ф **«ЗЕЛЕНАЯ МИЛЯ». 19.00** Х/ф **«НОЧЬ В ОСАДЕ». 21.00** Х/ф **«КРАСНЫЙ ДРАКОН». 1.15** Х/ф **«СЕМЬ». 3.15, 4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 16.00** Т/с **«ШИРОКА РЕКА». 9.00, 17.00, 0.00, 1.00** Т/с **«ГРОМОВЫ». 10.00, 11.00, 18.00, 19.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ВЕРБНОЕ ВОСКРЕСЕНЬЕ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ПРОСТИТЬ НЕЛЬЗЯ РАССТАТЬСЯ». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«МОЙ ГЕНЕРАЛ». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«МАМА – ДЕТЕКТИВ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.15** Х/ф **«УЛЬТРААМЕРИКАНЦЫ». 2.20** Х/ф **«ШАФЕР НАПРОКАТ». 4.10** Х/ф **«ЗАЧЕТНЫЙ ПРЕПОД 3». 6.25** Х/ф **«ПОМОГИТЕ СТАТЬ ОТЦОМ». 8.15** Х/ф **«SUPERАЛИБИ». 10.05** Х/ф **«ПРОСТУШКА». 12.00** Х/ф **«SUPERЗЯТЬ». 14.00** Х/ф **«(НЕ)ЖДАННЫЙ ПРИНЦ». 15.35** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 17.25** Х/ф **«УКРОЩЕНИЕ СТРОПТИВОГО». 19.30** Х/ф **«МЫ – МИЛЛЕРЫ». 21.35** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ». 23.35** Х/ф **«АГЕНТ 117: МИССИЯ В РИО».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.00, 1.00, 2.00, 3.00, 4.15, 5.10, 6.10, 7.10, 8.10, 9.10, 10.10, 11.10** Т/с **«ВЕЛИКАЯ». 12.10, 13.10, 14.00, 15.00** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 15.55, 16.55, 18.00, 19.00, 20.05, 21.05, 22.05, 23.10** Т/с **«КОМИССАРША».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.20** «ЛОВИ МОМЕНТ». **8.35** «КВН. ПА-НАШАМУ». **9.05** Мультфильмы «ЦАРЕВНЫ». **9.30** Мультфильмы «СКУБИ ДУ». **10.00** Шоу «ДЕТСКИЙ КВН». **11.00** Шоу «РУССКИЕ НЕ СМЕЮТСЯ». **12.00** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **12.45** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ДЕСПЕРО». 14.30, 22.00, 0.15** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.00** Х/ф **«ТАЙМЛЕСС 3: ИЗУМРУДНАЯ КНИГА». 17.05** Х/ф **«ЭЛИЗИУМ: РАЙ НЕ НА ЗЕМЛЕ». 19.10** Х/ф **«СОЛТ». 21.00** Шоу «ПОЛНЫЙ БЛЭКАУТ». **22.40** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **23.45** Шоу «НАШ РЕМОНТ». **1.30** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.00** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **2.50** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.25** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.40, 10.00, 13.50** Футбол. Чемпионат Англии. **8.25** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. БЧ (Гомель) – МФК Лида. **11.50** Пит-стоп. **12.20** Хоккей на траве. Чемпионат Беларуси. Женщины. Виктория (Смолевичи) – ХК Ритм (Гродно). **15.50, 23.00** Теннис. Ролан Гаррос. **17.00** Баскетбол. Единая лига ВТБ. Зенит (Санкт-Петербург) — Цмокі-Мінск. В перерыве Спорт-центр. **18.30, 21.00** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **20.20** Итоги недели.

### EUROSPORT

**0.30, 8.30** Велоспорт. BinckBank тур. Пятый этап. **1.30, 2.30, 4.00, 5.30, 9.50, 10.50** Теннис. «Ролан Гаррос». Третий круг. **6.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Первый этап. **9.30, 11.40, 22.15** Теннис. «Ролан Гаррос». «Гейм, Шетт и Матс». **11.55, 14.00, 16.00, 18.00, 20.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Четвёртый круг. **22.30** Велоспорт. «Джиро д'Италия». Второй этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00, 13.55, 0.55** Испытание на прочность. **6.30** Наезд! **6.35, 17.40** Металломщики. **7.25, 14.30, 18.30, 1.40** Тест на «Драйве». **7.55, 10.35, 13.35, 17.05, 19.05, 23.45, 1.25, 3.50** Итоговые новости. **8.10** Советы юриста. **9.40** Тест с дядей Ваней. **10.00** Советы для каждого. **10.55** Квадроциклы. **11.25** Все включено. **12.00, 19.25, 22.55, 3.10** Кругосветка по бездорожью. **12.30, 19.55, 23.25** Школа внедорожного вождения. **12.50, 20.15, 0.05, 4.05** Супергрузовики. **15.00, 2.40** Сити-тестер. **15.30, 21.00** Автомобильные музеи мира. **16.05** Байки про байки. **16.45, 22.40** Хорошо забытое. **17.25, 3.40** Автолайф. **21.35** Обновление. **21.55, 5.20** Вечер с Пикуленко. **4.55** Возвращение легенды.

### EXPLORE

**6.00, 6.55, 7.45, 8.40** Речные чудовища. **9.30, 9.55, 22.00, 22.25** Нефритовая лихорадка. **10.20** Строительство гигантов. **11.10, 12.40, 13.25, 14.15, 15.00, 15.50, 16.35, 17.25, 18.10, 19.00, 19.45, 21.15** Поисковая команда в Австралии. **11.55, 20.30** Австралийские золотоискатели. **22.50, 23.40** Ржавые тачки на прокачку. **0.30** Тренировка по древним традициям. **1.20, 2.10, 3.05, 3.55** Могучие реки. **4.45, 5.10** Виртуозы резьбы по дереву.

### HISTORY

**6.10, 6.55, 7.40, 8.25, 2.50, 3.35, 4.25** Музейные тайны. **9.10, 10.05** Расшифрованные сокровища. **10.55, 11.40** Мифы и чудовища. **12.30, 13.20** Запретная история. **14.05, 14.55, 15.45, 16.30** Могилы викингов. **17.20** Невидимые города Италии. **18.15, 22.50** Оружейники: искусство войны. **19.05** Боевые корабли. **19.55** Золотое кораблекрушение. **21.00** Охота за трансильванским золотом. **21.55** Тайны египетских пирамид. **23.40, 0.25** Карты убийства. **1.15, 2.00** Загадки Египта. **5.10** Родовые проклятья. **5.35** Невероятные изобретения.

### NATURE

**6.00, 6.50, 7.40, 8.35, 17.55, 18.45, 22.50, 23.40** Выживание в дикой природе. **9.25** Невероятные животные. **10.20, 11.20, 19.40, 20.40** Нил: величайшая из рек. **12.25, 13.15** Загадочная планета. **14.05** Мадагаскар, африканский Галапагос. **15.00** Жилища животных: прирожденные инженеры. **16.05, 21.45** Муравьиная гора Дэвида Аттенборо. **17.05** Как выживают медведи. **0.30** Невероятные встречи с животными. **1.20** Хищные питомцы. **2.10, 5.00** Мутации погоды. **2.55** Ветеринар из Йоркшира. **3.40, 4.10** Уличный ветеринар. **4.35** Лучшие друзья собаки.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **7.35** Авто – SOS. **8.25** Машины: Разобрать и продать. **9.20, 10.10, 11.00** Древний Китай с высоты птичьего полета. **11.50, 12.40, 13.30, 19.20** Инстинкт выживания. **14.20, 14.45** Горячие границы: Латинская Америка. **15.10** Служба безопасности аэропорта: Перу. **17.40** Расследование авиакатастроф. **18.30** Расследования авиакатастроф. **20.10** Сила племени. **21.00, 21.50, 22.40, 23.30** Путешествия с Гордоном Рамзи. **0.20, 0.45, 1.15** Фабрика еды. **1.35** Сделать за один день. **2.00, 2.45, 5.05** Осушить океан. **3.35** Авто – SOS, лучшее.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.05, 2.00** Рыболовная школа для взрослых. **6.30, 10.25, 14.25, 18.30, 22.35, 2.30** Охота в Новом Свете. **6.55, 10.50, 14.50, 18.55, 3.10** Рыбалка в России. **7.25, 15.25, 23.35** Вкусные рецепты рыболова. **7.55, 11.50, 15.55, 20.00, 4.10** Рыбалка 360. **8.25, 12.20, 16.25, 4.40** Егерский кордон. **8.55, 12.50, 16.55, 1.05, 5.05** Рыбалка без границ. **9.25, 13.25, 17.30, 21.35, 5.35** Мир рыболова. **11.20, 19.25, 3.40** Вкусные рецепты охотника. **20.30** Давай зарубимся! **20.45** Популярная охота. **21.00** На рыбалку с охотой. **23.00** Рыболовы. **0.05** Рыболовная Россия. **0.35** Рыболовные экспедиции в Норвегию. **1.35** Донка против фидера. **2.55** Крылатые охотники.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.05, 18.00, 22.00, 2.10** Сравнительный анализ. **6.30, 10.40, 22.25** История усадеб. **7.00, 11.10, 15.10, 19.05, 23.00, 3.10** Старые дачи. **7.30, 11.45, 23.30** Милости просим. **7.55, 12.15, 16.10, 20.05, 0.00, 4.20** Лучки-пучки. **8.15, 12.30, 0.20** Забытые ремесла. **8.35, 12.50, 16.40, 20.35, 0.35, 4.50** Домашние заготовки. **8.50, 13.05, 20.55, 0.50, 5.05** Семейный обед. **9.20** Правила стройки. **9.40, 1.25** Осторожно злая собака. **13.35, 17.15** Огород круглый год. **14.35, 18.30, 2.40** Варенье. **14.50, 18.50, 2.55** Флористика. **15.40, 19.35, 3.50** Усадьба будущего. **16.25, 20.20, 4.35** Свечной заводик. **16.55** Огород круглый год. Осенние работы. **17.30, 21.30, 5.35** Сельские профессии. **1.55** Особый вкус. **3.35** Букварь дачника.

# Калюмны. Гісторыя старадаўняга дзяржаўнага сімвала беларусаў

**Старадаўнімі сімваламі беларусаў былі бел-чырвона-белы сцяг і герб Пагоня. Аднак ёсць яшчэ адзін – Калюмны.**

«Рэгіянальная газета» расказвае, што такое Калюмны, як яны звязаныя з італьянскім Рымам і вялікім князем Гедымінам.



Так выглядае герб Калюмны.

### Што такое Калюмны

Калюмны – гэта адзін са старадаўніх гербаў Вялікага Княства Літоўскага.

**Гэта дагеральдычны і геральдычны знак Вялікага Княства Літоўскага, вядомы з 13 стагоддзя. Часцей за ўсё разглядаецца як герб Гедымінавічаў, спадчыннікаў Рагвалодавічаў.**

Па напісанні знак блізкі да знакаў роду Кіеўска-Наўгародскіх Рурыкавічаў і княжацкіх пячатак 11-12 стагоддзяў **Усяслава Чарадзея** і яго сына **Барыса** – першага полацкага князя, які меў хрысціянскае імя і які праводзіў хрышчэнне Дзвінскіх камянёў (язычніцкіх капішчаў).

Усе крыжы Дзвінскіх камянёў маляваліся з «Галгофай» (характэрным пастаментам). Унясенне «Галгофы» ў графіку язычніцкіх княжацкіх пячатак лагічна трансфармуе яе ў Калюмны. Яны і стылістычна вельмі блізкія сваім лаканізмам.

У 1597 годзе польскі гісторык **Марцін Бельскі** ў «Хроніцы Польскай» пісаў пра Пагоню і Калюмны наступнае: «Рыцарство Литовское уживает на хоругви по одной стороне Погоню/... по другой три слупа белых на поле червоном...».

### Як Калюмны прывезлі з Рыма

Паводле легенды, герб Калюмны прывёз з сабой з Рыма Палемон. Па версіі Хронікі Вялікага Княства Літоўскага, усё пачалося з уцёку 500 сем'яў рымскай знаці ад жорсткага імператара **Нерона**. Морам яны дабраліся ў Жмудзь. А па гісторыі ў Хронікі Быхаўца, рымская шляхта ўцякала ад **Аціли**, які ў 452 годзе ўзяў у аблогу Аквілею.

На чале шляхетных эмігрантаў быў родзіч Нерона **Палемон** – Публій Лібон, а яго сын **Кунас** заснаваў дынастыю літоўскіх князёў, да якой належаў і заснавальнік ВКЛ **Міндоўг**.

Беларускі гісторык **Мікалай Улашчык** выказаў навуковае абгрунтаванне аб несапраўднасці гэтай легенды, якую змяшчалі старадаўнія хронікі. Мяркуецца, што гэта легенда, як і ўвогуле большасць легендаў, мелася служыць новым грамадска-палітычным мэтам літоўскай арыстакратыі, якія афарміліся ў пачатку 16 стагоддзя, а таксама сведчыла аб патрэбе этнічнага самавызначэння літоўцаў.




Беларуская фірма аддзення робіць спецыяльныя кеды з выявай Калюмнаў.

**Аднак Калюмны сустракаюцца на манетах Вялікага Княства Літоўскага ўжо ў другой палове 14 стагоддзя. Падчас княжання Гедыміна Калюмны пачынаюць выкарыстоўваць у якасці дзяржаўнага сімвала.**

### Княжанне Гедыміна

Панаванне Гедыміна ў Вялікім Княстве Літоўскім пачалося прыкладна ў 1315-1317 гадах. У часы Гедыміна ВКЛ зрабілася моцнай усходнееўрапейскай дзяржавай, тэрыторыя павялічылася ўдвая. Узмацнілася запазычанне элементаў заходнееўрапейскай культуры, адначасна Гедымін заклаў падмурак рускаму вектару палітыкі ВКЛ. Яго шматлікія нашчадкі ўтварылі дынастыю Гедымінавічаў.

**Гедымін выкарыстоўваў Калюмны як адзін з элементаў свайго дынастычнага герба. Таму Калюмны атрымалі назву «Слупы Гедыміна».**

### Грунвальдская бітва і Вітаўт

У 1409-1411 гадах Вялікае Княства Літоўскае і Каралеўства Польскае ваявалі з крыжакамі ў Вялікай вайне. Яе апагеем стала Грунвальдская бітва ў 1410 годзе. Паводле **Яна Длугаша**, з 40 харугваў Вялікага Княства Літоўскага 10 былі з выявай Калюмнаў.

**Таксама Длугаш сцвярджаў, што Вітаўт клеймаваў такім знакам – Калюмнамі – коней. Даследчыкі лічаць гэтыя харугвы надворнымі, якімі Вітаўт кіраваў як вялікі князь.**

### Іван Жахлівы і Рэч Паспалітая

Яшчэ ў 16 стагоддзі сувязь Калюмны – Гедымінавічы – Рагвалодавічы – Полацк была відавочнай. Маскоўскі цар **Іван Жахлівы** пасля ўзяцця Полацка дадаў на вялікую царскую пячатку менавіта Калюмны, як сімвал горада.

У гербоўніках Рэчы Паспалітай герб Калюмны называўся, як **Dawny Litewsky**, або **Jagielonow**, і не быў прывязаны да пэўнага ваяводства Вялікага Княства Літоўскага.

Герб Калюмны прыпісваюць да Троцкага ваяводства. Адзіны раз, калі Калюмны прысутнічалі ў гербе гэтага ваяводства – гэта ў 15 стагоддзі на шчыце капейшчыка. У гербоўніку Herby rycerstwa polskiego ад 1584 года сказана, што герб Калюмны проста старэйшы за горад Трокі.


Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

● КАЛЯНДАР

**25 ВЕРАСНЯ**

**1895.** У Радашкавічах нарадзілася **Ванда Лявіцкая (Лёсік)**, беларуская пісьменніца, перакладчыца, педагог. Дачка Ядвігіна Ш. Жонка Язэпа Лёсіка.

**26 ВЕРАСНЯ**

**1964.** Утвораны курортны пасёлак Нарач. Заснаваны пры курорце Нарач з вёсак Купа, Баравыя, Малая Сырмеж, Наносы, Садоўшчына, Сцепанёва, Урлікі.

**27 ВЕРАСНЯ**

**1977.** Першы ток дала Чарнобыльская АЭС.

**28 ВЕРАСНЯ**

**1962.** Нарадзілася **Алена Анісім**, беларуская мовазнаўца і палітычная дзеячка. Старшыня Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.



**29 ВЕРАСНЯ**

**1823.** Нарадзіўся **Уладзіслаў Сыракомля**, беларускі і польскі паэт. Памёр у 1862. Пахаваны ў Вільні.

**1939.** Знішчаны абраз з Будслаўскай Маці Божай. Адна з галоўных хрысціянскіх святынь Беларусі. У гэты дзень атрад чырвонаармейцаў расстраляў цудатворны абраз. Адрэстаўраваны ў 1991.



**30 ВЕРАСНЯ**

**1892.** Нарадзілася **Зоська Верас**, беларуская пісьменніца і грамадская дзеячка (пам. у 1991 у Вільні).



**1 КАСТРЫЧНІКА**

**1869.** У Вене выйшлі першыя паштоўкі.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Ведаў некалькі замежных моў, але заўсёды размаўляў па-беларуску

## Маладзечанец, вучань Гаўрылы Гарэцкага, расказаў пра свайго настаўніка

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанец Ігар Таранікаў любімай справай – геалогіяй – займаецца больш за сорак год. Пачынаў яшчэ падчас вучобы ў БДУ на геаграфічным факультэце, на кафедры геалогіі ад 1975 года да 1980-га.**


Фота забяспечанае Ігарам ТАРАНІКАВЫМ.

Студэнт Ігар Таранікаў падчас палявой практыкі на Заходняй Дзвіне. Лета 1978 года.

Пасля кожнага курса была палявая практыка. Падчас адной з такіх экспедыцый, летам 1978 года, студэнт Ігар Таранікаў пазнаёміўся з **Гаўрылам Гарэцкім** – навукоўцам, акадэмікам, доктарам навук, братам расстралянага савецкімі ўладамі беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага.

### Помніцца стары стол з зялёным сукном і чарнільніца

– Пасля першага курса я працаваў на геабазе ў Валожынскім раёне, вывучалі Заходнюю Бярэзіну. Пасля другога курса трапіў у Сібір, на БАМ. А знаёмства з Гаўрылам Іванавічам адбылося пасля трэцяга курса. Летам 1978 года нас размеркавалі ў Акадэмію навук, у інстытут геахіміі і геафізікі, у лабараторыю геалогіі і палеапатамалогіі – навукі, якая вывучае старажытныя рэкі, – прыгадвае Ігар Таранікаў.

Усіх студэнтаў, кожнага ў вызначаны час, па адным запрасілі да кіраўніка лабараторыі Гаўрылы Гарэцкага. Ён з кожным знаёміўся асабіста.

– Пра Гаўрылу Іванавіча я шмат чуў, але да таго ніколі не сустракаўся з ім. Добра запомніў нашу першую сустрэчу. Я зайшоў, прадставіўся. З-за стала ўстаў высокі, дужы сталы чалавек у касцюме. Падышоў да мяне, павітаўся, таксама прадставіўся. Размаўляў па-беларуску. Але спытаў, на якой мове будзе зручна мне. Я беларускую добра разумеў. А каб размаўляць, трэба было напружвацца. Таму прапанаваў, каб ён – па-беларуску, а я – па-руску. Так і дамовіліся, – расказвае Ігар.

Студэнт расказаў пра сябе, пра тое, што ў геалогіі ўмее і чаго не ўмее. Гарэцкі даў яму пачытаць праграму практыкі – дастаткова тоўстую кніжку:

– Кажа: ты пачытай, потым спытаеш, што незразумела. А я пакуль лісты ў Еўропу напішу.

### Нямецкай і англійскай валодаў без слоўніка

Да сёння майму суразмоўцу запомніўся стары масіўны стол з зялёным сукном, чарнільны прыбор, напэўна, яшчэ з 1930-х гадоў, пёравая ручка, прэс-пап'е, каб прамакаць напісанае.

– Уявіце: Гаўрыла Іванавіч бярэ чысты аркуш паперы, чарнільную ручку і пачынае пісаць. Я гляджу: піша па-нямецку. Без слоўніка. Напісаў, узяў другі аркуш і таксама без слоўніка пачаў іншы ліст – ужо на англійскай мове.

### Гарбата ад Гаўрылы Гарэцкага

Праз тыдзень студэнт ужо ехаў на практыку на аўтобусе разам з іншымі ўдзельнікамі экспедыцыі. Паехалі на мяжу Беларусі і Расіі. Працавалі на берагах Заходняй Дзвіны:

– Па беразе ракі быў слой шчыльна спрасаванага торфу. А ў ім – пыльца, насенне раслін, зубы грызуноў, якія жылі тут 10-12 тысяч год таму. Відаць, быў нейкі перыяд пацяплення паміж рухамі ледавіка.

Студэнты прамывалі гэты торф, сеялі праз сіта. Тое, што заставалася на сіце, складалі ў мяшэчкі для лабараторыі. І кіраўнікі, і студэнты звярнулі ўвагу, што насенне вельмі незвычайнае для сучаснага перыяду. Таму патэлефанавалі Гаўрылу Гарэцкаму. І ў хуткім часе ён прыехаў.

**Вядомы навукоўца, як і ўсе, жыў у палатцы. Дзяжурыць па кухні яму не дазвалялі. У свае 78 ён рана падымаўся, ішоў да ракі па зарасніках і збіраў зёлкі – мяту, чабор. Пасля сушыў для вячэрняй гарбаты.**

– Гарбату ён рабіў сам. Запарваў у вялікім чайніку на некалькі літраў. На спецыяльную цырату клаў заварку і некалькі кучак розных зёлак. Заварку кідаў у апошнюю чаргу, спачатку – зёлкі. Я так разумею, што такая звычка – з часоў, калі савецкая ўлада асудзіла яго і этапавала ў Беламора-Балтыйскі лагер НКВД, – дзеліцца Ігар.

### Размаўляў проста пра складаныя рэчы

За гарбатай акадэмік, доктар навук размаўляў са студэнтамі. Па назіраннях суразмоўцы, не гледзячы на ўсе заслугі, чалавек ён быў вельмі просты. Відаць, што інтэлект дазваляў яму адчуваць сябе свабодна ў любых умовах, мяркуе суразмоўца.

Падчас такіх вячэрніх гутарак Гаўрыла Іванавіч расказваў пра сваё зняволенне, працу на Беламора-Балтыйскім канале. Пра тое, у якіх умовах жылі асуджаныя. Расказваў, што жытлом была ці то стайня, ці то хлеў, прадзіманы вятрамі з усіх бакоў. Зняволеныя самі спрабавалі ствараць утульнасць, прыносілі дошкі, мох, затыкалі шчыліны, каб было цяплей. Пасля Беламора-Балтыйскага канала пачалі будаваць каскад гідраэлектрастанцый па Волзе. На іх будаўніцтве Гарэцкі таксама працаваў як геолаг.

– Чалавек быў вельмі адкрыты, адказваў проста на складаныя і нязручныя пытанні. Так, працавалі зэкі. Так, з імі было няпроста. Але калі да іх нармальна ставішся, то і яны добра працавалі, – прыгадвае Ігар вячэрнія размовы за гарбатай.

Студэнты шмат пытанняў задавалі па геалогіі. Можна сказаць, прайшлі цэлы курс менавіта ад практыка, а не тэарэтыка, якіх шмат было ва ўніверсітэце, адзначае Ігар. Вучыліся вызначаць, адкуль рухаўся ледавік, які матэрыял прынёс са Скандынаўскага паўвострава, з якой часткі Скандынавіі. Часам нават спрачаліся з Гарэцкім. Але часцей ад свайго няведання.

### Шкадаваў, што доўга не давалі вярнуцца на радзіму

Пра сям'ю, пра расстралянага брата-пісьменніка Максіма Гарэцкага Гаўрыла Іванавіч згадваў не часта. Успамінаў, што дапамагаў Максіму ствараць маскоўска-беларускі слоўнік. З горыччу прыгадваў, як пасля зняволення хацеў вярнуцца ў Беларусь, але яму доўга не дазвалялі. Хоць рэабілітавалі ў канцы 1950-х, на радзіму змог вярнуцца ў канцы 1960-х.



Гаўрыла Гарэцкі.

– Уражанні ад сустрэчы з такім людзьмі, як Гаўрыла Гарэцкі, застаюцца на ўсё жыццё. Рэдка сустрэнеш такога чалавека – інтэлігентнага, выхаванага, неабмежаванага розуму, і пры гэтым вельмі простага ў зносінах, – адзначае Ігар.

І прыгадвае, што яшчэ ў канцы 1970-х Гарэцкі казаў, што нас чакаюць вялікія праблемы з вадой і кліматам. Вось яны ўжо пачынаюцца: стаяць бясснежныя зімы, у людзей з калодзежаў знікае вада:

– У нас ужо цяпер шырата Кіева. Вінаград выспявае. Год 30-40 мы і падумаць пра такое не маглі, а Гаўрыла Іванавіч ужо прадбачыў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

Гаўрыла Гарэцкі (1900 – 1988). Вядомы беларускі геолаг, географ, эканаміст, адзін з заснавальнікаў і акадэмік (1928) Беларускай акадэміі навук, дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута сельскай і лясной гаспадаркі. Доктар геолага-мінералагічных навук (1946), заслужаны дзеяч навукі Беларусі. Брат пісьменніка Максіма Гарэцкага. Родам з Магілёўшчыны. Скончыў Гора-Горацкую каморніцкую вучэльню і Пятроўскую сельскагаспадарчую акадэмію. Быў некалькі разоў арыштаваны савецкімі ўладамі, пазбаўлены звання акадэміка. Два разы прыгавораны да расстрэлу, але выжыў.

# Маладзечанцам адказаў «Фонд міру»

## «Шкадуем аб прымяненні сілы, асуджаем гвалт, просім не выходзіць на шэсці»

**Каля двухсот маладзечанцаў падпісалі зварот да старшыні маладзечанскай раённай арганізацыі ГА «Беларускі фонд міру» Святланы Чыжыкавай. На мінулым тыдні яны атрымалі адказ.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

У цэнтры Маладзечна 10 жніўня.

У сваім звароце гараджане прасілі старшыню пракаментаваць шматлікія затрыманні 9-11 жніўня, пыталіся, як абараніў Фонд міру маладзечанцаў, да якіх сілавікі прымянілі фізічную сілу; да якіх органаў звярталіся, каб урэгуляваць сітуацыю з парушэннем правоў чалавека.

– Якую дапамогу прапанаваў Фонд міру пацярпелым?

– Як вы асабіста ставіцеся да мірных акцый салідарнасці ў Маладзечанскім раёне?

– Што вы можаце прапанаваць для падтрымкі грамадзянскіх ініцыятыў і акцый салідарнасці?

Такія пытанні задавалі жыхары Маладзечна Святлане Чыжыкавай. Вось як выглядае адказ:

«Дарагія землякі! Маладзечанская раённая арганізацыя грамадскага аб'яднання «Беларускі фонд міру» занепакоеная сітуацыяй, якая склалася і нясе відавочныя пагрозы жыццю і здароўю грамадзян, будучаму Рэспублікі Беларусь. Мы шкадуем пра факты прымянення сілы і асуджаем гвалт у любых формах і відах. Мы выказваем спачуванне пацярпелым падчас несанкцыянiраваных мітынгаў. Мы – мірныя людзі. Самая вышэйшая і абсалютная каштоўнасць – гэта чалавек, яго жыццё, здароўе і годнасць.

Мы, міратворцы, заклікаем усіх праявіць разважлівасць, кіравацца прынцыпамі гуманізму і агульнымі крытэрыямі маральнасці. Наша раённая арганізацыя ГА «Беларускі фонд міру» заклікае спыніць вулічныя шэсці, бо яны падвяргаюць небяспецы, у першую чаргу, жанчын і дзяцей. Весці толькі мірны дыялог, і не на плошчах, бо дыскусіі магчымыя ў рамках здаровага палітычнага працэсу і ў строгай адпаведнасці закону.

Хай Беларусь, дзякуючы нашым агульным намаганням, стане зноў мірнай! Хай чалавечыя каштоўнасці – мірнае стварэнне, гуманізм, дабрыня, міласэрнасць, дынамічнае развіццё, стабільнасць – будуць нашымі арыенцірамі і надалей.

З павагай Святлана Чыжыкава, старшыня Маладзечанскай раённай арганізацыі ГА «Беларускі фонд міру».

**Аддзел інфармацыі.**

# Запуск АЭС у Астраўцы перанеслі на пачатак 2021 года

**Аб гэтым заявіў міністр энергетыкі Віктар Каранкевіч, выступаючы на 64-й сесіі генеральнай канферэнцыі МАГАТЭ ў Вене, паведамляе БЕЛТА.**

Ён праінфармаваў аб ходзе будаўніцтва Беларускай атамнай электрастанцыі. У жніўні завершаная загрузка ядзернага паліва ў рэактарную ўстаноўку першага энергаблока БелАЭС. Увод у эксплуатацыю першага энергаблока прызначаны на першы квартал 2021 года, другога – на 2022 год.

Добрым прыкладам запатрабаванасці ядзерных тэхналогій міністр назваў работу МАГАТЭ па ўмацаванні патэнцыялу дзяржаў у барацьбе з пандэміяй COVID-19. Віктар Каранкевіч выказаў удзячнасць агенцтву за дапамогу, аказаную ў сувязі з гэтым Беларусі, а таксама тым краінам, дзякуючы фінансавай падтрымцы якіх гэта дапамога стала магчымай.

«У рамках рэалізацыі сваёй ядзернаэнергетычнай праграмы Беларусь прадоўжыць адкрытае і канструктыўнае ўзаемадзеянне з МАГАТЭ і ўсімі іншымі зацікаўленымі партнёрамі», – рэзюмаваў кіраўнік Міністэрства энергетыкі.

**Паводле БЕЛТА.**

# Работніка Мінскага электратэхнічнага завода, што скончыў жыццё самагубствам, пахавалі ў Вілейцы

**Работнікі Мінскага электратэхнічнага завода расказалі, што ў іх у адным з цэхаў работнік скончыў жыццё самагубствам. Прычыны невядомыя.**

Як паведамляецца, усё адбылося 19 верасня падчас абеду. Чаму ён гэта зрабіў, невядома. Але калегі мяркуюць, што гэта можа быць звязана з праблемамі на працы.

**Завадчанін працаваў зборшчыкам, яму было 33 гады.**

Калегі кажуць, што нішто ў яго паводзінах і настроі не насцярожвала.

– Але 19 верасня мужчына скончыў жыццё самагубствам у адным з цэхаў, – распавёў нам адзін з працаўнікоў прадпрыемства. – На завод прыехала ўсё начальства, у тым ліку і дырэктар. Стала вядома, што за два дні да гэтага ў яго быў канфлікт з адным з начальнікаў.

**Яшчэ адзін работнік завода сказаў, што мужчына пакінуў перадсмяротную запіску.**

– Ён прасіў нікога не вінаваціць у сваёй смерці, – сказаў калега мужчыны. – Чаму ён пакончыў з сабой, ніхто не ведае, матывы цяпер спрабуюць высветліць.

**Па словах работнікаў, да іх на прадпрыемства прыязджаў святар, чытаў малітвы каля лесвіцы, дзе адбылося самагубства.**

– Учора (20 верасня) у моргу мінскай 10-й бальніцы было развітанне з калегам. Пахаванне адбылося сёння (21 верасня) на гарадскіх цэнтральных могілках у Вілейцы, – распавядаюць калегі. – У яго застаўся дзевяцігадовы сын. Жонка кажа, што мае намер разабрацца ў прычыне смерці мужа.

**Яго сябры, з якімі удалося звязацца TUT.BY, пакуль размаўляць адмовіліся.**

Аператыўна пагаварыць са сваякамі, як і з кіраўніцтвам Мінскага электратэхнічнага завода, не ўдалося.

**Паводле TUT.BY.**

# У Маладзечне разглядаюць справу над супрацоўнікамі АМАПа

**У судзе Маладзечанскага раёна разглядаюць крымінальную справу аб гвалце над супрацоўнікамі АМАПа падчас ланцуга салідарнасці 19 чэрвеня. Прайшлі чатыры пасяджэнні, наступнае адбудзецца 28 верасня.**



На лаўцы абвінавачаных — Павел Пяскоў і Уладзіслаў Еўсцягнееў.

«Рэгіянальная газета» расказвае, што адбывалася падчас слуханняў.

### Ланцуг салідарнасці і ўзбуджэнне крымінальнай справы

19 чэрвеня ў Маладзечне прайшла акцыя салідарнасці ў падтрымку затрыманага кандыдата ў кандыдаты ў прэзідэнты **Віктара Бабарыкі** і яго сына **Эдуарда**. У той дзень людзі станавіліся ў ланцуг насупраць галоўнага ўвахода ў парк.

Пасля з'яўлення міліцыі асноўная частка ўдзельнікаў акцыі перайшла да скрыжавання Вялікі Гасцінец – Багдана Хмяльніцкага. Падчас затрымання аднаго з удзельнікаў акцыі, **Міколы Алейніка**, пачалася патасоўка амапаўцаў і людзей.

Праз некалькі дзён Следчы камітэт Беларусі заявіў, што ўзбудзіў крымінальную справу па артыкуле 363 «Супраціўленне супрацоўніку органаў унутраных спраў або іншай асобе, якая ахоўвае грамадскі парадак». Следчы камітэт таксама абвясціў, што па падазрэнні затрымалі двух чалавек. Адным з іх быў **Павел Пяскоў**, другім – **Уладзіслаў Еўсцягнееў**. Падчас судовых пасяджэнняў стала вядома асоба яшчэ аднаго падазраванага – гэта **Уладзімір Непагода**, месцазнаходжанне невядомае, ён аб'яўлены ў вышук.

Пацярпелымі прызнаныя супрацоўнікі АМАПа **Яўген Баранаў** і **Вячаслаў Якавенка**.

### Паказанні пацярпелых амапаўцаў

16 верасня прайшло першае пасяджэнне. Судовы разбор вяла суддзя **Вікторыя Паляшчук**. Дзяржаўным абвінаваўцам выступіў пракурор **Сяргей Габруковіч**. Пяскова абараняе адвакат **Ігар Касцюк**, Еўсцягнеева – адвакат **Уладзіслаў Філіповіч**.

Пракурор Габруковіч аб'явіў абвінавачанне. У ім ён адзначыў, што Пяскоў і Еўсцягнееў мелі намер на супраціўленне супрацоўнікам органаў унутраных спраў, спалучылі гэта супраціўленне з гвалтам да гэтых супрацоўнікаў. Мужчын абвінавачваюць па частцы 2 артыкула 363 Крымінальнага кодэкса.

Па матэрыялах справы, Пяскоў прымяніў гвалт у адносінах да Якавенкі. Той меркавана ўдарыў яго па левым калене, у выніку чаго парвалася левая штаніна абмундзіравання. Еўсцягнееў нібыта прымяніў гвалт у адносінах да Баранава, ударыў па правай руцэ ў двух месцах. На працаздольнасць Якавенкі і Баранава гэтыя пашкоджанні не паўплывалі.

Еўсцягнееў прызнаў сваю віну. Пяскоў прызнаў віну часткова.

Падчас першага пасяджэння паказанні давалі пацярпелыя Яўген Баранаў і Вячаслаў Якавенка. Яны самі на судзе не прысутнічалі, давалі паказанні праз відэасувязь у Мінскім абласным судзе.

19 чэрвеня Яўген Баранаў знаходзіўся ў Маладзечне на службе па ахове грамадскага парадку. На аўтамабілі «Форд-Транзіт» супрацоўнікі ездзілі па Вялікім Гасцінцы, пабач з якім былі людзі, што ўдзельнічалі ў несанкцыяніраваным масавым мерапрыемстве. Разам з супрацоўнікам Маладзечанскага РАУС амапаўцы выходзілі да людзей, каб папярэдзіць іх, што тыя парушаюць заканадаўства.

Яўген Баранаў вырашыў затрымаць Міколу Алейніка, таму што, па яго словах, той скандзіраваў лозунгі, а астатнія людзі крычалі лозунгі ў адказ, таксама махаў рукамі і правакаваў супрацоўнікаў тым, што хадзіў за імі і здымаў на тэлефон.

Баранаў сказаў, што яны разам з Якавенкам падышлі да Алейніка, прадставіліся, папрасілі прайсці ў службовы транспарт. Алейнік адмовіўся. Баранаў і Якавенка пачалі затрымліваць яго з прымяненнем фізічнай сілы – заламалі рукі за спінай. Баранаў таксама паведаміў падрабязнасці затрымання Алейніка, якіх раней не паведамляў на судзе па адміністрацыйнай справе. Напрыклад, што Баранаў падышоў да Алейніка з раскрытым пасведчаннем супрацоўніка міліцыі. Пасля затрымання адбылася сутычка амапаўцаў і людзей.

**Як апісвае гвалт у свой бок Баранаў:** «Я стаяў спінай да ўдзельнікаў мерапрыемства, тварам да службовага транспарту. Потым адчуў, як мяне цягнуць уніз за левую руку. У выніку чаго ўпаў. Потым даведаўся, што грамадзянінам, які цягнуў мяне, аказаўся Еўсцягнееў. Пры падзенні ўпаў на рукі і калена. Пачаўся ціск, на мяне падалі яшчэ людзі. Я ўпаў на локаць яшчэ больш.

> **У момант падзення перакінуў праз сябе грамадзяніна Еўсцягнеева, каб мець магчымасць устаць. Устаў, і мы з'ехалі».**

Іншы пацярпелы амапавец Вячаслаў Якавенка прытрымліваецца такіх жа самых паказанняў, што і Яўген Баранаў, на працы па ахове грамадскага парадку і затрыманні Міколы Алейніка.

**Як апісвае гвалт у свой бок Якавенка:** «Я не бачыў, хто мяне схапіў за плячо. Калі паспеў павярнуцца, то ўбачыў, што цягнуў мужчына ва ўзросце ў светлай кашулі. Я развярнуўся, убачыў, што Баранаў ужо ляжыць. Я ўпаў на левае калена на зямлю, а перыферыйным зрокам бачыў, што падыходзяць людзі. Пасля таго, як упаў на калена, адчуў, што мяне цягнуць за абмундзіраванне, за шыю. Я ўпаў яшчэ раз».

### Разыходжанні ў паказаннях сведак-амапаўцаў і міліцыянераў

Разам з Баранавым і Якавенкам 19 чэрвеня ў Маладзечна прыехалі яшчэ пяць амапаўцаў: **Віталь Дукі**, **Эдуард Савіцкі**, **Мікіта Шыйко**, **Васіль Амялчэня**, **Аляксей Гарбачоў**. Яны таксама давалі паказанні праз відэасувязь з Мінскага абласнога суда.

Віталь Дукі не бачыў затрымання Алейніка. Ён бачыў толькі, як нейкі чалавек наносіў удары Якавенку. Суддзя сказала, што ў чэрвеньскім пратаколе Дукі адзначаў, што бачыў патасоўку з удзелам Баранава таксама. Дукі падрабязнасці не ўспомніў.

Эдуард Савіцкі не бачыў ні затрымання, ні сутычкі. Ён быў старшым групы АМАПа, але знаходзіўся каля галоўнага ўвахода ў парк. Пра падзеі яму расказалі ў вуснай форме амапаўцы ў аддзяленні міліцыі.

Мікіта Шыйко не бачыў затрымання Алейніка, але бачыў, як людзі накінуліся на Баранава і Якавенку. Амапавец дакладна не памятае, колькі людзей накінулася, не запомніў і саміх людзей. Падчас сутычкі Шыйко знаходзіўся ў бусе, але выйшаў, каб дапамагчы Баранаву. Шыйко адмаўляў, што даставаў службовы пісталет з кабуры.

Васіль Амяльчэня сказаў, што не бачыў ні затрымання, ні сутычкі. Ён быў у мікрааўтобусе, яму даставілі затрыманага Алейніка, з якім ён знаходзіўся амаль увесь час. Амяльчэня выйшаў з буса, каб пазваць у яго Шыйко. Ён не бачыў ні ў каго з амапаўцаў пісталет у руках.

Аляксей Гарбачоў працаваў у той дзень кіроўцам. З машыны не выходзіў. Затрымання і сутычкі не бачыў, толькі чуў. Шыйко расказаў Гарбачову, што ў яго ў руках падчас сутычкі быў пісталет.

Усе амапаўцы пацвердзілі, што везлі Міколу Алейніка ў крэсле за кіроўцам. Адваротнае заявілі на судзе сведкі з Маладзечанскага РАУС, якія з супрацоўнікамі АМАПа працавалі і былі ў службовым мікрааўтобусе падчас акцыі.

Міліцыянер **Дзмітры Суднікові**ч падчас акцыі хадзіў з мегафонам. Затрымання Міколы Алейніка не бачыў, аднак заўважыў, як Пяскоў цягнуў амапаўца і Еўсцягнееў на асфальце з іншым амапаўцам. Ён неаднаразова заяўляў, што Алейніка

# аб гвалце



Прадстаўнік пацярпелых Прыгодзіч падчас першага пасяджэння.



Паўла Пяскова ўзялі пад варту пасля трэцяга пасяджэння.

везлі на падлозе аўто. Перавозку Алейніка на падлозе службовага аўто пацвердзіў іншы міліцыянер **Яраслаў Туровіч**.

## Жонка, сужытніца і мінакі

Наступным сведкам на судзе выступіла жонка Пяскова **Алена Пяскова**. У шлюбе з Паўлам яна ад 2014 года. З Паўлам ёсць сын Яраслаў. Сумесна не жывуць паўтара года. Павел выплачвае аліменты. Па словах Алены, Павел хоча браць сына да сябе на кожныя выхадныя, але яна не дазваляе. Алена расказала, што ў іх з Паўлам канфліктныя адносіны. Адвакат Касцюк запытаўся, чаму яна напісала Паўлу, калі даведалася пра суд, што будзе рада прысутнічаць. Алена сказала, каб пазларадніčаць. Адвакат таксама запытаўся, ці пісала ў адрас Пяскова, калі даведалася пра суд, – «бяздушная істота». Алена адказала, што пісала розныя рэчы, у тым ліку і гэта.

19 чэрвеня **Андрэй Хруцкі** ішоў да дому бацькоў разам з бацькам з парку. Ён бачыў затрыманне Алейніка. Сказаў, што амапаўцы не прадстаўляліся і не паказвалі пасведчанне. Сутычкі людзей з амапаўцамі Хруцкі цалкам не бачыў. Па яго словах, чалавек зачапіўся за парэбрык, падаў і ў гэты ж час схапіў амапаўца, таму яны ўпалі разам. У руках амапаўца Хруцкі бачыў і пісталет.

**Вераніка Французава** паўтара года жыве разам з Паўлам Пясковым. Патлумачыла, што жонка Паўла дазваляе сустракацца яму з сынам толькі тады, калі той дае грошы. Збіраліся праз суд вырашыць пытанні сустрэч з сынам. Французава расказала падрабязнасці наконт затрымання Алейніка. Яна пацвердзіла словы Хруцкага: амапаўцы не прадстаўляліся, службовыя дакументы не паказвалі, падхапілі хлопца са спіны за рукі і пацягнулі ў аўтобус.

**Пётр Хруцкі** ў той дзень гуляў разам з сынам па Вялікім Гасцінцы. Калі праходзіў скрыжаванне Гасцінца – Хмяльніцкага, там стаяў малады чалавек, глядзеў нешта ў тэлефоне. Хруцкі заўважыў у яго на руках пальчаткі, на твары – маску. Сказаў сыну, што менавіта так трэба захоўваць сваё здароўе. Сын Хруцкага Андрэй сказаў, што ў Алейніка хворае сэрца.

– У гэты момант схапілі яго і, як мяшок бульбы, закінулі ў машыну, – расказвае пра затрыманне Алейніка Пётр Хруцкі.

Пётр Хруцкі кажа, што не бачыў, каб супрацоўнікі прадстаўляліся ці што-небудзь казалі Алейніку. Па яго словах, на Алейніка проста рэзка кінуліся.

– Палічыў, што гэта мой грамадзянскі абавязак – папярэдзіць супрацоўнікаў пра хворае сэрца затрыманага хлопца.

Ён паспеў гэта сказаць міліцыянерам, а потым ледзь не ўпаў – зачапіўся за бардзюр. Пётр Хруцкі сказаў, што першы раз у жыцці бачыў, як супрацоўнік трымаў у руках пісталет і накіроўваў яго ў бок людзей. Потым амапаўцы заскочылі ў бус і з'ехалі.

## Што расказалі пра падзеі абвінавачаныя

Уладзіслаў Еўсцягнееў нарадзіўся ў Маладзечне. У 13 год яго забралі ад маці, таму што тая не магла яго дагледзець. У жанчыны бестэрміновая інваліднасць. У 18 год Еўсцягнееў пераехаў назад да маці. Частка кватэры пасля смерці бацькі належыць яму. Еўсцягнееў сказаў, што ў 18 год прадухіліў суіцыд маці, калі аднойчы вярнуўся дадому. Па яго словах, дагледзець сябе без яго дапамогі маці не можа.

Ён не аформіў догляд за інвалідам, таму што не змог бы афіцыйна нідзе працаваць. А грошай па доглядзе, кажа Еўсцягнееў, не хапіла б на жыццё ім з маці.

У Еўсцягнеева сярэдняя спецыяльная адукацыя. Апошняе месца працы – маладзечанская бальніца №1. Там працаваў дэзінфектарам у інфекцыйных аддзяленнях.

19 чэрвеня да 20:30 знаходзіўся дома, глядзеў фільм. Еўсцягнееў жыве недалёка ад месца, дзе ў той дзень праходзіла акцыя. У яго быў адкрыты балкон, таму чуў, што на вуліцы нешта адбываецца. Выйшаў з дому пасля 20:30, пайшоў у бок гімназіі №6. На скрыжаванні Вялікага Гасцінца з вуліцай Багдана Хмяльніцкага бачыў людзей, асноўная частка знаходзілася каля былой крамы «Елгава».

Еўсцягнееў бачыў, што частка Вялікага Гасцінца перакрытая супрацоўнікамі ДАІ, інспектар рэгуляваў рух. Там пабачыў супрацоўніка міліцыі з мегафонам, амапаўцаў у чорнай форме. Пасля Еўсцягнееў перайшоў дарогу да былой крамы «Елгава». Затрымання Алейніка не бачыў.

Еўсцягнееў пачуў, як крычыць жанчына, убачыў, як кагосьці цягнуць у бус. Тады падбег да супрацоўніка АМАПа, якім аказаўся Яўген Баранаў. Еўсцягнееў левай рукой схапіў левую руку Баранава, а правай хацеў схапіць за тулава, і пацягнуў амапаўца. У гэты час Еўсцягнееў падвярнуў нагу, таму разам з амапаўцам упалі. Пасля Баранаў перакінуў Еўсцягнеева праз сябе. Яшчэ адзін супрацоўнік адцягнуў Еўсцягнеева.

Баранаў крыкнуў у бок Еўсцягнеева «Ляжаць!». Еўсцягнееў прыкрыў галаву рукой, каб абараніцца ад магчымых удараў. Потым амапаўцы з'ехалі на бусе.

З Паўлам Пясковым Еўсцягнееў не быў знаёмы да гэтых падзей. Еўсцягнееў у той дзень бачыў Пяскова, але толькі на відэа зразумеў, як той падае. Сказаў, падалося, што яго кідаюць.

Еўсцягнеева затрымалі 20 чэрвеня, калі ён вяртаўся з аўтавакзала дадому. Супрацоўнікі затрымалі ў пад'ездзе.

– Раскайваюся, што нанёс шкоду. Непрыемна, калі супрацоўнікі цябе здзяйсняюць нейкія дзеянні.

Павел Пяскоў жыве разам з бабуляй, у якой ёсць інваліднасць па зроку. Ён афіцыйна не працуе, даглядае за бабуляй.

19 чэрвеня ў другой палове дня быў з бабуляй дома на вуліцы Маркава. Потым пайшоў да скрыжавання Вялікага Гасцінца з вуліцай Багдана Хмяльніцкага. Пяскоў убачыў людзей каля галоўнага ўвахода ў парк. Яны стаялі ў ланцугу. Падумаў, што гэта чарга, каб падпісацца. Мінакі сказалі Пяскову, што там збіраюць подпісы за кандыдатаў у прэзідэнты.

Пяскоў спыніўся ля ўвахода ў былую краму «Елгава». Каля яго двойчы праходзілі супрацоўнікі міліцыі. Там Пяскоў збіраўся паставіць подпіс за кандыдата ў прэзідэнты, але сам пікет ён не бачыў.

– Я павярнуўся ў бок парку. Хацеў адысці пакурыць, а потым пачую крык. Азірнуўся, убачыў, як амапавец ціснe, напэўна, каленам на чалавека ў паласатай кашулі. Амапавец стаяў, скажу так, – ракам. Чалавек у той момант ляжаў пад амапаўцам.

Пяскоў падбег, схапіў амапаўца за форму.

– Хацеў выратаваць чалавека, трэба было завяршыць гэты канфлікт. Вакол жа былі дзеці.

Пяскоў пацягнуў амапаўца за форму і пасля сам упаў. Тады падняўся з калень, стаў каля натоўпу. Ён не бачыў, што адбывалася побач.

20 чэрвеня Паўла затрымалі супрацоўнікі міліцыі каля рынку.

Пяскоў падкрэсліў, што не згодны з тым, што нанёс супрацоўніку АМАПа цялесныя пашкоджанні.

Нагадаем, Пяскоў і Еўсцягнееў знаходзіліся да 18 верасня пад дамашнім арыштам. Пракурор Габруковіч у судовым пасяджэнні 18 верасня хадайнічаў, каб Пяскова ўзялі пад варту на падставе аператыўнай інфармацыі ад начальніка Маладзечанскага РАУС **Вадзіма Прыгары**. Той спаслаўся, што ёсць інфармацыя, быццам Пяскоў можа ўцячы за мяжу. Суддзя ўхваліла хадайніцтва пракурора. Еўсцягнееў знаходзіцца дагэтуль пад дамашнім арыштам, а Пяскоў – пад вартай у Маладзечанскім ізалятары часовага ўтрымання.

28 верасня ў судзе пройдзе чарговае пасяджэнне. На ім дапытаюць яшчэ аднаго сведку. Ім з'яўляецца судмедэксперт, які зафіксаваў пашкоджанні ў Баранава і Якавенкі.



Тэкст і фота –
Настасся
УТКІНА
anastasiautkina94
@gmail.com
(8-0176)
53-78-06

# У Маладзечне пройдуць два чэмпіянаты па адзінаборствах

**26 і 27 верасня ў Маладзечне адбудуцца адразу два чэмпіянаты Беларусі па адзінаборствах.**

У суботу ўніверсальная зала гарадскога спартыўна-забаўляльнага цэнтра прыме рэспубліканскія спаборніцтвы па панкратыёне.

**Панкратыён бярэ свой пачатак у старажытнай Грэцыі, быў адроджаны ў 20 стагоддзі і лічыцца прабацькам папулярных ММА.**

Большасць беларускіх байцоў ММА сумяшчае выступленні ў гэтых адзінаборствах, многія заявіліся на чэмпіянат краіны, бо з-за пандэміі ў 2020 годзе мноства спаборніцтваў у краіне і за мяжой былі адменены. Спартсмены гараць жаданнем паказаць сябе.

**У Маладзечна прыедуць байцы з Мінска і ўсіх абласных цэнтраў, а таксама такіх вядомых у краіне «байцоўскіх» гарадоў, як Мазыр, Бабруйск, Рэчыца.**

Акрамя таго, у самым Маладзечне вырасла шмат майстроў баявых мастацтваў.

У нядзелю ўпершыню пад эгідай Беларускай федэрацыі панкратыёна і змешаных баявых адзінаборстваў пройдзе чэмпіянат Беларусі па грэплінгу. Гэты від адзінаборстваў адрозніваецца ад панкратыёна тым, што ў грэплінгу цалкам адсутнічае ўдарная тэхніка, затое практычна без абмежаванняў выкарыстоўваецца ўвесь арсенал болевых і задушлівых прыёмаў.

**Спаборніцтвы кожны дзень будуць пачынацца ў 10:00. Фінальныя паядынкі намечаныя на 16:00.**

Па выніках чэмпіянатаў будуць фарміравацца зборныя Беларусі па відах спорту. Акрамя таго, у байцоў ёсць шанец паказаць сябе перад вачыма прамоўтэраў прафесійных ліг па ММА, што для многіх будзе дадатковай матывацыяй.

**Аддзел інфармацыі.**







## Вядомыя беларускія спартсмены звярнуліся да чыноўнікаў

Галоўны трэнер гандбольнага «Віцязя» **Канстанцін Якаўлеў**, футбольны трэнер **Васіль Хамутоўскі**, трохразовы прызёр Алімпіяды ў плаванні **Аляксандра Герасіменя**, лёгкаатлет **Андрэй Краўчанка**, валейбаліст **Артур Удрыс**, самбіст **Сцяпан Папоў**, кікбаксёр **Іван Ганін**, баскетбалістка **Алена Леўчанка**, фрыстайлістка **Аляксандра Раманоўская**, пяціразовы лепшы баскетбаліст Беларусі **Ягор Мешчаракоў** выступілі з відэазваротам да кіраўнікоў беларускага спорту.

– Чыноўнікі беларускага спорту, прыйшоў час звярнуцца і да вас. Не за зачыненымі дзвярыма, як вы любіце, а публічна, каб ведалі ўсе. Вы прыходзіце да сумленных спартсменаў і пагражаеце ім. Душыце, запалохваеце, прымушаеце забіраць свае подпісы і адмаўляцца ад сваіх слоў.

Пры гэтым самі трасяцеся, баючыся страціць сваё цёпленькае крэсла. Мы гэта бачым. Вы пагражаеце здароўю нашых сем'яў і дзяцей. Значыць, заўтра вашы прозвішчы будуць гучаць ва ўсіх СМІ. Таму што мы кажам і будзем казаць праўду адкрыта – так, як ёсць.

Краіна даведаецца пра кожнага Максіма, які будзе тэлефанаваць на нашы тэлефоны.

Мы не забіраем свае словы назад, таму што гэта вашы баязлівыя метады.

**Прыбіраючы голас аднаго спартсмена, ведайце, што на яго месца прыйдуць двое. А замест дваіх – чацвёра.**

Нагадаем, што больш за 500 спартсменаў, спартыўных журналістаў, трэнераў падпісаліся пад адкрытым лістом з патрабаваннямі новых прэзідэнцкіх выбараў, спынення гвалту і прыцягнення ўсіх адказных за гвалт падчас 9-13 жніўня да адказнасці.

**Аддзел інфармацыі.**

## Журналіста «Трыбуны» асудзілі на 15 сутак

Пазаштатнага аўтара спартыўнага партала «Трыбуна» асудзілі на 15 сутак.

Журналіста **Максіма Несцяркова** затрымалі падчас акцыі жаночай салідарнасці 19 верасня ў Мінску. У пратаколе было пакавана, што ён прыняў актыўны ўдзел у мітынгу без дазволу Мінгарвыканкама, крычаў «Жыве Беларусь!». Пасля адмовіўся выканаць законнае патрабаванне супрацоўніка міліцыі прайсці ў службовы аўтамабіль. Несцяркоў прызнаў віну.

**Аддзел інфармацыі.**

## Хакеіст Сяргей Касціцын трапіў у ДТЗ

ДТЗ адбылося ў Мінску каля паловы чацвертай ночы.

**Хакеіст адзначыў, што не быў за рулём. Відавочцы паведамляюць, што Касціцын быў разам з жанчынай.**

Паводле папярэдняй інфармацыі ад ДАІ, кіроўца на аўтамабілі «Мерседэс» наехаў на святлафор. Ад праходжання агляду адмовіўся. Пацярпелых у ДТЗ няма, аўтамабіль атрымаў механічныя пашкоджанні.

**Паводле by.tribuna.com.**

## Экс-генсак НАКа Беларусі: пазітыўны багаж Еўрапейскіх гульняў-2019 у Мінску цалкам знішчаны

Былы генеральны сакратар Нацыянальнага алімпійскага камітэта (НАК) Беларусі, а таксама намеснік дырэктара фонду «Дырэкцыя II Еўрапейскіх гульняў 2019 года» **Анатоль Котаў** распавёў аб правядзенні такога маштабнага мерапрыемства ў праекцыі на сённяшнія падзеі, што адбываюцца ў краіне.

Котаў дагэтуль лічыць, што Еўрапейскія гульні для Беларусі былі грандыёзным праектам.

– Адна са звышзадач, якія ставілі перад сабой, – гэта паказаць Беларусь еўрапейскай, класнай, пазітыўнай, дынамічнай краінай, у якой свая гісторыя, культура, мова, дзе жывуць цудоўныя людзі.

**На жаль, можна сказаць, што пазітыўны багаж мерапрыемства цалкам знішчаны. Беларусь зноў на першых палосах сусветных СМІ, толькі там цяпер кроў і жах. Ніхто да нас не прыедзе як турыст. І справа не ў каронавірусе.**

Прычына – улада, якая знішчае сваіх грамадзян, – падзяліўся Котаў.

**Паводле pressball.by.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

1. Італьянскі архітэктар Паладыё пісаў, што ў кожнай пабудове павінны спалучацца тры рэчы. Дзве з іх – карысць або зручнасць і даўгавечнасць. А што трэцяе?
3. Вечназялёны куст, радзей дрэва, расліна сямейства кіпарысавых з ягадападобнымі чорна-сінімі пладамі. Некаторыя выкарыстоўваюць яго ў кулінарыі.
4. Род твораў у галіне якога-небудзь мастацтва, які характарызуецца пэўнымі ўласцівасцямі, сюжэтнымі і стылістычнымі прыкметамі.
6. Тлушчавае адкладанне ў целе жывёльнага арганізма.
7. Той, хто назірае спектакль, фільм і іншыя віды мастацтва на сцэне.
9. У наступны дзень.
11. Ападкі ў выглядзе вельмі дробных кропелек вільгаці.
13. Скошаная і высушаная трава, якая ідзе на корм жывёле.
14. Асобны гук пэўнай вышыні ў музыцы і спевах.
15. Населены пункт у Вілейскім раёне, які з'яўляецца цэнтрам аднаго з сельсаветаў.
17. Участак лесу, дзе часта растуць дрэвы.
18. Паверхня, бок прадмета, процілеглы яго верху.
19. Сукупнасць прадметаў аднолькавага прызначэння.
22. Атрыманая зусім нядаўна вестка.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

2. Нітка, выробленая з сухажылля, капрону.
3. Прыстасаванне для ўтрымання на месцы суднаў, плывучых маякоў.
5. Цела нябожчыка; прах.
6. Умоўны знак для перадачы паведамлення, распараджэння, каманды.
8. Невялікі сакавіты плод некаторых кустовых і травяністых раслін.
10. Сумесна, групай; усе разам.
12. Які не страціў сваіх натуральных якасцей.
14. Адна з дзвюх ніжніх канечнасцей чалавека.
15. Дзявяты месяц года.
16. Бясслаўнае становішча, якое выклікае крайняе асуджэнне, пагарду.
17. Уверсе мангольскай юрты знаходзіцца акно. Яно выконвае функцыю коміна і прапускае святло. Функцыю якога прадмета яно выконвае таксама.
20. Прозвішча аўтара верша «Радзіма мая дарагая».
21. Кніга або сшытак для перыядычнага запісу падзей, здарэнняў.
23. Адсутнасць святла, густы змрок; цемната.

## Адказы на крыжаванку з №38

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Сяброўства. 3. Мыла. 4. Узор. 7. Факт. 9. Мазаіка. 11. Мовіць. 12. Будучыні. 17. Аснова. 18. Манета. 20. Шляхта. 23. Фэст. 24. Каляндар.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Сумесна. 2. Дрэвы. 5. Марна. 6. Атрыбут. 8. Сход. 10. Фанатык. 13. Ахвота. 14. Свіран. 15. Гучна. 16. Краснае. 19. Асвета. 20. Шклянка. 21. Вясёлкай. 22. Азарт.

## ГАРАСКОП НА 25 ВЕРАСНЯ – 1 КАСТРЫЧНІКА

**АВЕН.** Адказны перыяд, цягам якога будзе шмат спраў. Калі штосьці будзе вельмі складаным, звяртайцеся па дапамогу да надзейных людзей – ім будзе прыемна быць для вас карыснымі. Асабліва прыемна, што дапамагаць вам гатовы, абсалютна ні на што не разлічваючы ў адказ.

**ЦЯЛЕЦ.** Выдатны час, каб якасна і з карысцю правесці любыя перамовы. На звыклыя рэчы давядзецца паглядзець па-новаму. Пастарайцеся не заганяць сябе ў рамкі, дазвольце прастор думкам і дзеянням.

**БЛІЗНЯТЫ.** Галоўнымі ў гэты перыяд будуць зносіны з людзьмі, прычым як блізкімі, так і не вельмі. Поспех разам будзе залежаць ад вашых паводзін. Важна не дапускаць сварак і абразаў – гэта будзе адразу азначаць ваш правал. Вам будзе хацецца раскрыць чужы сакрэт, але рабіць гэтага не варта.

**РАК.** Большасць амбіцыйных планаў у гэты перыяд увасобіць не атрымаецца. Зоркі кажуць, што пакуль проста не прыйшоў іх час. Праўда, вам будзе вельмі крыўдна, і зусім у гэта не паверыцца.

**ЛЕЎ.** Вельмі паспяховы ў прафесійным плане перыяд. Вакол вас будзе сапраўдная рабочая бура, але ў добрым сэнсе. Спатрэбіцца не адставаць і самому рабіць многія рэчы, каб эфектыўнасць была максімальнай.

**ДЗЕВА.** Вы будзеце напоўненыя ідэямі, натхненнем і пазітывам. Вас будзе найбольш турбаваць фінансавы аспект ва ўсіх пытаннях. У рамантычных адносінах чакае падзея, ад якой вы будзеце ў захапленні.



**ШАЛІ.** Вам будзе вельмі патрэбная падтрымка, і без яе будзе падавацца, нібыта вы на краі бездані. Але важна памятаць базавы прынцып – калі вы штосьці хочаце, пра гэта трэба папрасіць.

**СКАРПІЁН.** Нават калі падаецца, што вас няма чым здзівіць, зоркі заўсёды трымаюць штосьці за зачыненымі дзвярыма. Усе самыя жаданыя таямніцы Сусвету адчыняюцца толькі тым, хто мае смеласць гэтыя дзверы адчыніць.

**СТРАЛЕЦ.** Самай слушнай лініяй паводзін будзе шчырасць і сумленнасць. Будзе важна папоўніць багаж ведаў па тых пытаннях, дзе вы не вельмі дасведчаныя. Гэта стане вашым козырам у нечаканы момант.

**КАЗЯРОГ.** Напружаны перыяд у фінансавым плане. Але калі вы падыдзеце да яго з усёй адказнасцю, зоркі абяцаюць вам сур'ёзны набытак. Магчыма, нават атрымаецца заключыць надзвычай выгадную здзелку і атрымаць тое, што даўно хацелі.

**ВАДАЛЕЙ.** Вас чакае нешта надзвычайнае, прычым, што гэты цуд створыце вы самі. Самыя грандыёзныя падзеі будуць у сферы бізнесу. Смеласць стане для вас галоўным памагатым, які зможа вывесці вас у зусім новы кірунак, і надзвычай паспяховы.

**РЫБЫ.** У вас будзе перыяд, калі вы будзеце поўныя кахання і захочаце яго выказаць нейкім незвычайным чынам. Зрабіць сюрпрыз вам дапаможа фантазія і сябры, якія падхопяць ідэю і падтрымаюць тое, што вы задумалі з поўным размахам.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 9 | 5 | | | | | 7 | |
| 2 | | | | | | 9 | 8 | 6 |
| | 8 | 4 | | | | | 3 | |
| | 2 | | | | 6 | 7 | | |
| | | 1 | 7 | | | 4 | | |
| 7 | 3 | | | | | 1 | | 8 |
| | | | 3 | 6 | | | | 5 |
| 8 | | | 9 | | 5 | | 4 | |
| | | 2 | | | | 6 | | 9 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



# Рэгіянальная газета. Rh.by




## Уладзімір Някляеў. Крэўскі шлях

**Ураджэнец Смаргоні, паэт і палітык Уладзімір Някляеў даслаў у «Рэгіянальную газету» свой верш «Крэўскі шлях». Твор публікуецца ўпершыню.**

Я пушчу са Смаргоняў да Крэва трамвай,
І ўсім людзям з далёкага свету
Буду баяць-казаць пра чароўны мой край,
Пра зямлю крывічанскую гэту.

Будзе грукаць трамвай праз барок, праз лясок,
Цераз лугу раскінуты веер,
І адчуюць усе, хто прыехаў здалёк,
Як тут пахне прыпечаны сонцам пясок
І марозам прыхоплены верас.

Я гісторыі нашай вузлы развяжу,
Што звязаны сівымі вякамі,
Я пра Суцькава міты гасцям раскажу,
Байкі пра Наваспаск з Багушамі.

Раскажу я ім казкі дажджоў і снягоў,
І ў трамваі, прадзьмутым вятрамі,
Паспрабую сказаць, што такое любоў –
З вершалінамі і каранямі.

Раскажу, як я край гэты крэўны люблю,
Прытуляю да сэрца ашчадна
Каранямі ўсіх продкаў, што леглі ў зямлю,
Вершалінамі юных нашчадкаў.

І пачуюцца ўсім бомы крэўскіх званоў
На сямі скрыжаваннях сусвету,
І на вечнай дарозе вялікіх князёў
Мы сустрэнем князёвы карэты.

Выйдзе Вітаўт з карэты і выйдзе Альгерд,
Выйдзе Кейстут з Ягайлам на пару...
Ён жыве! Не ўмірае наш крэўскі сусвет!
Як легенда жыве і як мара!

І калі прагрукоча трамвай праз Сялец
На зваротным шляху да Смаргоні,
Раскажу я паданні пра княскі вянец,
Пра змаганні, пра бітвы, пагоні.

Калі ж мовіць мне хтосьці: «Ты ўсё распавёў!» –
У трамваі апошнім, што поўны сяброў,
Поўны цудаў пражытых і дзіваў,
Я сыграю мелодыю родных палёў:
Паланэз развітання з Радзімай.

А калі я прайду скрозь жыццё і скрозь смерць,
І скрозь тое, што назвы не мае,
Я падзякую ўсім і за ўсё!..
Што ж хацець
Вам яшчэ
ад кіроўцы
трамвая?

*19.09.2020.*

### ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## У чым сіла беларусаў?



**Наталля Сцяпанава, настаўніца, Маладзечна:**
– Нас моцна разлавалі. Наша сіла ў тым, што мы аб'ядналіся. Нас большасць. Сіла ў праўдзе!



**Мікалай Сіляўскі, ахоўнік, Маладзечна:**
– Сіла ў рабочых Беларусі.



**Дзяніс Міханчык, юрыст, Смаргонь:**
– Нашай галоўнай сілай з'яўляецца тое, што наша агульнае імкненне да годнасці і павагі, негледзячы ні на што, захоўвае добры намер. Мы разумеем, што быць Беларусам – гэта сапраўды гонар, больш за тое, мы не патрабуем ніякіх ідэалогій, каб гэта разумець, бо мы адчуваем гэта нашымі сэрцамі.



**Яўген Рысянкоў, будаўнік, Маладзечна:**
– У дружным народзе.



**Дзмітры Стрэж, юрыст, Маладзечна:**
– Мяркуючы па апошніх падзеях, самаарганізацыя і ўзаемадапамога.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**

## Чытайце праз тыдзень:

- **Працягваем расказваць гісторыі людзей, затрыманых у Маладзечне 9-13 жніўня.**

## 26 верасня, субота

**Вецер:** паўднёва-ўсходні, 9 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература -1°С у 2001 годзе
Максімальная тэмпература +23,7°С у 1975 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 21,3 мм у 1974 годзе

Паводле meteoinfo.by.

## Падпіска на 2-е паўгоддзе не спыняецца!

**Самы лепшы спосаб у час пандэміі атрымліваць мясцовыя навіны і іншыя публікацыі аб жыцці навокал на паперы – падпісацца.**

**Вам не трэба выходзіць з дому, каб кожную пятніцу атрымліваць у сваю скрыню «Рэгіянальную газету».**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

- **праз сайт «Белпошты»**

Зарэгіструемся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 632122. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

- **на пошце**
- **праз паштальёна**
- **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі:**
- на месяц – 4 рублі 96 капеек,
- на квартал – 14 рублёў 88 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі:**
- на месяц – 16 рублёў,
- на квартал – 48 рублёў.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

**ПАДПІСНЫ ІНДЭКС:** *63212 (індывідуальная)*
*632122 (ведамасная падпіска).*



**Архіў «Рэгіянальнай газеты» 1995-2001 і 2013-2019 у вольным доступе на сайце Kamunikat.org**



Адсканайце QR-код або скарыстайцеся кароткай спасылкай: **bit.ly/kamrh**

kamunikat.org
Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка


Рэгіянальная газета. Rh.by

Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 4000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№39 (1326) 25.09.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 1606. Падпісана ў друк у 9.00 24.09.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**





Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.